ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# ТРЭБА ЗБІРАЦЬ ПОДПІСЫ І ЗВЯРТАЦЦА ДА ПРЭЗІДЭНТА?

***Працягваюць прыходзіць водгукі чытачоў на артыкул прафесара Андрэевай. Сёння мы друкуем яшчэ адзін.***

Друкуючы артыкул прафесара Е. Андрэевай «Годзе беларусам у адзіноце заставацца народам без нацыянальнага універсітэта!», газета «Звязда» дэманструе пахвальную ініцыятыўнасць (лепш позна, чым ніколі). Хочацца спадзявацца, што адбудзецца змястоўная і карысная дыскусія. Яна можа даць плён і на практыцы паспрыяць адкрыццю нацыянальнага універсітэта. Няма аніякіх падстаў не згаджацца з думкамі і прапановамі паважанай Е. Андрэевай. Але як бачыцца праблема адкрыцця нацыянальнага універсітэта з глыбінкі?

Такую лёсавызначальную праблему трэба разглядаць і вырашаць зыходзячы з рэальных абставінаў. А яны маюць наступныя рысы:

1. Апалітычнасць, абыякавасць большай часткі насельніцтва.

2. Голы практыцызм і прагматызм людзей, як у штодзённым жыцці, так і ў дачыненні да грамадскіх ініцыятыў і праяў.

3. Азіранне чалавека на свайго начальніка. Пры наяўнасці ў апошняга станоўчых якасцяў — давер да яго. І адначасна страх перад ім, што засеў у генах.

4. Наяўнасць у краіне немалой колькасці «мазгоў»: выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры (ёсць і беларускамоўныя выкладчыкі іншых дысцыплін, і нямала); здольных вучняў — патэнцыяльных абітурыентаў, у тым ліку і ў першую чаргу ў раённых цэнтрах і сельскай мясцовасці. І, вядома, вучоных. Хопіць на адзін нацыянальны універсітэт і абітурыентаў, і выкладчыкаў адпаведных дысцыплін, — не хвалюйцеся, паважаная Е. Андрэева.

5. Не менш паловы насельніцтва краіны ў прынцыпе не супраць адраджэння беларускай мовы і беларускамоўнай адукацыі. Хто карыстаецца мовай, другія ведаюць яе, хоць не заўсёды размаўляюць па вядомых прычынах. Трэція пры адпаведных умовах гатовы хутка авалодаць моваю.

Нельга забываць, чаму склалася цяперашняя сітуацыя з мовай, як кажуць, тытульнай нацыі. Тут, вядома, розныя прычыны. І шматвяковы знешні ўціск, і ўплыў ідэалагічных догмаў зліцця моў і нацый, падмацаваных рэпрэсіямі, і недахопы ў выхаванні, практыцызм і элементарная лянота чалавека, яго малакультурнасць і бездухоўнасць. Большасць названых прычын нікуды не зніклі, іх трэба ўлічваць, па магчымасці змяншаць іх адмоўнае ўздзеянне.

Аб пасіўнасці сучаснай інтэлігенцыі з болем узгадвае сп. С. Шаўцоў. Як не дадаць: колькі маглі б зрабіць, скажам, тыя дзве-тры сотні пісьменнікаў?! А ці ўсё робяць радыё і тэлебачанне?

Сродкі масавай інфармацыі даюць часам матэрыялы па экалогіі. Складзены «Чырвоныя кнігі» на знікаючых прадстаўнікоў жывёльнага і раслíннага свету. Створаны запаведнікі і заказнікі, прыродаахоўныя арганізацыі. Выдатна! Чаму ж рэдка гучыць голас у абарону беларускай нацыі, беларуса, рэальная пагроза знікнення якіх набліжаецца? Без мовы — усе ведаюць — няма народа. Ці на карысць гэта будзе еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі? Што скажуць пра нас нашчадкі? І хто будзе ў адказе перад гісторыяй?

Сродкі масавай інфармацыі павінны шырэй займацца асветніцтвам і выхаваннем па моўна-этнічнай тэматыцы. А адкрыццё хоць бы адзінай нацыянальнай вышэйшай установы прыпыніць спаўзанне сітуацыі, няўхільнае і небяспечнае спаўзанне да пагібельнай мяжы.

З улікам усяго вышэйсказанага парадак дзеянняў уяўляецца такім. Пачынаць са збору подпісаў пад Зваротам да шаноўнага прэзідэнта з заклікам прыняць рашэнне аб адкрыцці нацыянальнага універсітэта. Наш прэзідэнт, як вядома, адэкватна адгукаецца на грамадскія ініцыятывы. Збор подпісаў можа ажыццявіць Таварыства беларускай мовы.

Пасля прыняцця адпаведнай пастановы, міжведамасная камісія распрацуе праграму стварэння вышэйшай нацыянальнай установы. Сфарміруецца прафесарска-выкладчыцкі корпус. Што датычыцца матэрыяльна-тэхнічнай базы, то гэта, як кажуць, справа тэхнікі.

Адкрыццё універсітэта, яго праца, апрача непасрэдна задачы падрыхтоўкі нацыянальных кадраў, станоўча паўплывае на паступовае вырашэнне многіх іншых задач: сацыяльна-палітычнай стабілізацыі, умацавання маральнага клімату ў грамадстве, паляпшэння сітуацыі ў вёсцы, павялічыць цягу моладзі да адукацыі...

**Рыгор ШУНДРЫК,**
**настаўнік.**
*Дзятлаўскі раён.*

***НЕАБХОДНЫ КАМЕНТАРЫЙ.*** *Кажуць, спрачацца могуць толькі аднадумцы. Глыбока дакладна: тым самым яны шліфуюць ацэнку сітуацыі, вывяраюць адценні. Мы з аўтарам ліста, я лічу, аднадумцы. Але ўдакладніць адценні ўсё ж трэба.*

*Мне не зусім, напрыклад, зразумела, чаму практыцызм і прагматызм — гэта заўсёды дрэнна? А калі чалавек атрымлівае мільён і павінен размеркаваць яго на месяц? Мне чамусьці здаецца, што грамадскія ініцыятывы яго ў гэтым выпадку не зацікавяць. Ён хутчэй пойдзе на мітынг, дзе патрабуюць павышэння зарплаты. Што таксама з'яўляецца беларускай рэальнасцю.*

*А ўвогуле, у любым грамадстве ёсць людзі, якія думаюць аб духоўным і ў паўгалодным, і нават у галодным стане. Напрыклад, тыя ж пісьменнікі. Але, што праўда, тое праўда — ніводзін з пісьменнікаў на артыкул прафесара Андрэевай не адгукнуўся. Можа не чыталі? Мне здавалася, што «Звязду» хоць бы праглядаць яны павінны. Усё ж такі мы адзіныя выходзім штодня на беларускай мове...*

*Ну, добра: прамаўчалі дык прамаўчалі. Аднак тут такая справа вымалёўваецца: пісьменнік не можа існаваць без моўнага асяроддзя. У сэнсе, калі арэал ужывання беларускай мовы будзе скарачацца, то, адпаведна, будуць скарачацца тыражы кніжак нашых паважаных пісьменнікаў. Вось вам узор чыстага прагматызму, які мог бы служыць справе адраджэння. Крычыце, патрабуйце, збірайце подпісы, — хто вам перашкаджае? А за родную мову не грэх і пацярпець. Толькі не відаць святых пакутнікаў, апрача ўжо даўно вядомых прозвішчаў...*

*Не магу не пагадзіцца з нашым карэспандэнтам у частцы яго прэтэнзій да сродкаў масавай інфармацыі. А хто ім перашкаджае «займацца асветніцтвам і выхаваннем па моўна-этнічнай тэматыцы»? Па-мойму, ніхто. Большасць газет выходзіць на дзвюх мовах, гэта запісана ў рэдакцыйных статутах і пасведчаннях аб рэгістрацыі. Калі такая газета пачынае друкавацца пераважна на рускай мове, то ёю павінна заняцца ўстанова, якая пасведчанне выдала. І мякка ўказаць на тое, што правы беларусаў пры такой сітуацыі церпяць.*

*А ўвогуле, можна сказаць яшчэ шмат горкіх і правільных слоў. І ўсё будзе да месца. Аднак справы не зрушацца. Тым не менш, Рыгор Міхайлавіч Шундрык сам падказаў адзіна законнае і эфектыўнае выйсце: збор подпісаў пад зваротам да прэзідэнта. І на гэтым пакуль спынімся.*

*Але дыскусія, паважаныя чытачы, не скончана. Чакаем вашых пісьмаў.*

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# МЫ МОЖАМ РЭКІ ПАВЯРНУЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

«Паколькі паводка трымалася працяглы час, то вада прасачылася праз глебу і паднялася да адпаведнага ўзроўню, — тлумачыць прычыны здарэння былы дырэктар электрамеханічнага завода Мікалай Бразоўскі. — Да таго ж адзін са шлюзаў на старым рэчышчы некалькі гадоў таму заклінавала, і праз гэтую шчыліну ў горад таксама трапіла значная колькасць вады». Аднак, паводле яго слоў, канструкцыя процілаводкавых збудаванняў прадугледжвала магчымасць падобнай небяспекі падчас доўгай «асады» горада. Калі ўзровень вады ў старым рэчышчы на тэрыторыі гарадка дасягае 130 сантыметраў, то ў справу павінна ўключацца вадакачка. Так было ўжо не раз, таму гарадчукам заўсёды ўдавалася пазбягаць сур'ёзных наступстваў.

Сёлета ўзровень вады больш чым на палову метра перавысіў дапушчальную адзнаку і склаў 185 сантыметраў. Для жыхароў мястэчка гэта абярнулася бедствам. Чаму ж гарадскія ўлады своечасова не адрэагавалі на небяспеку? М. Бразоўскі паціскае плячыма. Паводле яго слоў, жыхары пачалі біць трывогу яшчэ ў дваццатых чыслах лютага. Дзверы ў гарвыканкаме не зачыняліся, але яго кіраўнік Мікалай Пашкевіч толькі разводзіў рукамі: спасылаўся на тое, што сістэма знаходзіцца не на гарадскім балансе, а ў падпарадкаванні Столінскага МУААС.

Калектыўныя пісьмы паляцелі ў раён. Адказу ад старшыні райвыканкама Валерыя Піцухі жыхары Давыд-Гарадка, паводле іх выказванняў, чакаюць да гэтага часу. Прадстаўнік штаба грамадзянскай абароны Уладзімір Канапацкі, які прыехаў у Давыд-Гарадок, таксама нічым не суцешыў. Высветлілася, што ў МУААС няма сродкаў, каб заплаціць за электраэнергію і ўключыць вадакачку. Толькі ў пачатку сакавіка, пасля некалькіх дзён напружанага процістаяння, помпы ўсё ж былі ўключаны. Калі я быў у Давыд-Гарадку, узровень вады ў старым рэчышчы зменшыўся толькі да 140 сантыметраў.

Сітуацыя ў мястэчку ўскладняецца яшчэ тым, што падтапіла нават тую тэрыторыю, якая не мае прамой сувязі з ракой. Таму, нават калі адпампаваць лішак вады са старога рэчышча, на агародах многіх гараджан яна па-ранейшаму застанецца. М. Бразоўскі сцвярджае, што самастойна ўзровень змяншаецца толькі на сантыметр-паўтара ў дзень. А з такімі тэмпамі паводка можа зацягнуцца да мая. Дарэчы, нядаўнія снегапады не абмінулі і Століншчыну — тут выпала да 20 сантыметраў ападкаў. Снег неўзабаве ператворыцца ў ваду, што яшчэ дабавіць галаўнога болю гарадчукам.

На Палессе вясна звычайна прыходзіць на паўтара-два тыдні раней, чым, напрыклад, у Мінск. Таму сяляне тут ужо збіраюцца саджаць агароды, дзе-нідзе на вокнах ў скрынях цягнецца да сонца кволым лісцейкам расада агуркоў, капусты. Не да сяўбы толькі тым, у каго на полі плаваюць гусі ды качкі. Некаторым жыхарам нават сеяць не будзе чым, паколькі вада, заліўшы падвалы і капцы, знішчыла насенне. Многія бядуюць па патрэсканых падмурках, сапсаваных будматэрыялах, вымерзлых садах, згніўшых стагах сена... Памеры нанесенага ўрону пакуль не ацэньваюцца, але ў кожнай прыватнай гаспадарцы лік ідзе на мільёны рублёў.

Не дзіўна, што эмоцыі ў людзей дасягаюць мяжы. Жанчына, якую мы выпадкова сустрэлі на вуліцы і якая да сваёй хаты дабіраецца не інакш, як у гумовых ботах (лёд са снежнай кашай не трымае), ледзь не пабіла мяне, прыняўшы вашага карэспандэнта за нейкага начальніка з раёна. Тым не менш, гэтыя людзі, даведзеныя да адчаю, каб не згубіць яшчэ больш, згодны за свае ж грошы купіць гаручага для перасовачнай помпы, каб асушыць уласныя паселішчы...

Сёння ў Давыд-Гарадку задаюць шмат пытанняў: хто панясе адказнасць, хто кампенсуе нанесены ўрон, колькі будуць доўжыцца пакуты? Але, бадай, адно з іх — таксама рытарычнае — задаецца з асаблівым болем і непаразуменнем адначасова. Дзеля чаго некалі «ўбухалі» столькі грошай на абвод ракі і ў будаўніцтва дамбы, калі яна не абараняе ад вады?!

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**
*Давыд-Гарадок — Мінск.*



**На здымку: Віктар Чыкін з Фідэлем Кастра.** Фота з архіва В. Чыкіна.

*ПРА ПАЛІТЫКАЎ — БЕЗ ПАЛІТЫКІ*

# Рашаючы бой, які сніцца камуністу Віктару Чыкіну

*Гэта не словы з «Інтэрнацыянала», а факт з жыцця*

***Сённяшні госць «Звязды» не мае патрэбы ў доўгім прадстаўленні. Віктара Чыкіна добра ведаюць як лідэра Камуністычнай партыі Беларусі (КПБ), рэдактара газеты «Мы и время», а з нядаўняга часу — і як намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама.***

***На працягу ўсёй гутаркі мяне не пакідала адчуванне, што Чыкін чакае перш за ўсё непрыемных, «каверзных» пытанняў — каб адразу ж абвяргаць, даказваць, пераконваць. Ён, здаецца, «ідэалагічны баец» па духу, па натуры. А ў мінулым — бітламан, кандыдат у майстры спорту па фехтаванню, альпініст-аматар...***

***Шпага, гітара і «Капітал» — сапраўдны джэнтльменскі набор!***

**— Віктар Валянцінавіч, над вашым рабочым сталом — вялікі дыван з выявай У. І. Леніна...**

— Гэты дыван вісеў у кабінеце другога сакратара Мінскага гаркама КПБ Чыкіна, а да гэтага — у кабінеце Пятра Краўчанкі, якога я змяніў на гэтай пасадзе... Пасля вядомых падзей усю маёмасць гаркама партыі забраў гарвыканкам. Калі я прыйшоў сюды на працу, узяў у кабінет частку партыйнай маёмасці.

**— Што такое ўлада — для вас?**

— Гэта магчымасць унесці свой уклад у жыццё грамадства.

**— Вас больш ведаюць як актыўнага лідэра КПБ. А якія пытанні вы курыруеце як намеснік старшыні Мінгарвыканкама?**

— Ідэалагічны комплекс пытанняў: работу гарадскога прэс-цэнтра, аддзела інфармацыі і інфармавання насельніцтва, аддзела па рабоце з моладдзю. Курырую таксама працу шэрагу камісій — прызыўной, чарнобыльскай, па барацьбе з п'янствам. З'яўляюся камандзірам добраахвотнай народнай дружыны горада. Займаюся арганізацыяй дзяржаўных святаў. Ажыццяўляю сувязь з грамадскімі арганізацыямі. Па абавязку службы даводзіцца бываць на ўсіх пікетах і дэманстрацыях, што праводзяцца ў Мінску, — гэтыя мерапрыемствы адымаюць шмат часу, асабліва вясной і ўвосень, калі ў нашых палітыкаў пачынаецца абвастрэнне.

**— Але ж вы, напэўна, і як камуніст удзельнічаеце ў мітынгах?**

— Калі прааналізаваць колькасць праводзімых у Мінску пікетаў і мітынгаў, то камуністы замыкаюць пералік найбольш актыўных партый. У гэтым плане першынство трымаюць Аб'яднаная грамадзянская партыя, БНФ, Народная грамада. Левая частка палітычнага спектра апошнім часам больш спакойная.

**— Вы займаеце высокую пасаду ў Мінгарвыканкаме — ці не сведчыць гэта пра тое, што камуністы пачынаюць браць уладу ў свае рукі (хаця б у межах сталіцы)?**

— А вы мне назавіце хаця б аднаго кіраўніка на тэрыторыі былога СССР, які б не быў камуністам! Хіба што цяперашні прэзідэнт Літвы Адамкус — і толькі таму, што ён жыў за мяжою. Ва ўсіх астатніх рэспубліках пераважная большасць кіраўнікоў — камуністы.

**— Дакладней, былыя камуністы. Але вы — не былы.**

— Не, я сапраўдны.

**— Магчыма, мела б сэнс часова прыпыніць членства ў партыі — каб Чыкіна не абвінавачвалі ў лабіраванні пэўных партыйных інтарэсаў?**

— Калі нават і прыпыню членства ў партыі, хіба перастану быць камуністам? Я — камуніст па жыцці, і ніколі не ўтойваў гэтага. А наконт таго, лабірую я інтарэсы КПБ ці не, меркаваць прадстаўнікам іншых партый. Пакуль ніхто не скардзіўся.

**— А як жа партыйная дысцыпліна? Магчымая супярэчнасць: займаючы пасаду ў гарвыканкаме, вы можаце прымаць рашэнні, якія не адпавядаюць установкам вашай партыі?**

— Так, часам бывае. На рабоце я дзяржслужачы, а камуніст — ужо пасля таго, як пакідаю будынак выканкама. Перамагае дысцыпліна дзяржслужбы.

**— Вы курыруеце работу прэсы і ў той жа час з'яўляецеся рэдактарам газеты «Мы и время». Гэтая сітуацыя вас не бянтэжыць, Віктар Валянцінавіч?**

— Я неаднаразова тлумачыў гэтую сітуацыю. На з'ездзе КПБ зацверджаны новы рэдактар, але я дапамагаю яму ў выпуску газеты і на гэты перыяд лічу неэтычным здымаць сваё прозвішча. Апошні раз падпішу 250-ты нумар газеты, гэта будзе ў канцы сакавіка.

**— Вельмі папулярнае меркаванне: прэса павінна быць заўсёды апазіцыйнай да ўлады, выконваць функцыю кантролю. Вы згодны?**

— Такая функцыя таксама павінна быць, не пярэчу. Але я не ўяўляю, каб газета, якая, напрыклад, фінансуецца за сродкі дзяржавы, магла быць апазіцыйнай у адносінах да кіраўніцтва дзяржавы. Таму апазіцыйная прэса — па вызначэнню — апазіцыйная да ўлады, а дзяржаўная прэса заўсёды будзе падтрымліваць і абараняць уладу. Толькі ў часы перабудовы газеты ЦК КПСС нападалі на КПСС — замест таго, каб абараняць. Гэта, прабачце, тое самае, што сабака гаўкае на свайго гаспадара.

**— Адвечнае: хто плаціць, той і музыку заказвае?**

— Безумоўна. Навошта дзяржаве газета, якая стварае галаўны боль — за свае ўласныя грошы.

**— Прабачце, у нас жа не часы Людовіка XIV са знакамітым «Дзяржава — гэта я!» Дзяржаўныя грошы складаюцца з народных рублёў.**

— Сапраўды так. Але распараджальнік крэдыту — кіраўнік дзяржавы. Гэта, бадай, адзінае, што дае ўлада, — магчымасць быць распараджальнікам крэдыту.

**— Вы з'яўляецеся заснавальнікам якой-небудзь камерцыйнай структуры?**

— Не.

**— А як жа газета? Заснавальнікі — ЦК КПБ і калектыў рэдакцыі. Нейкім жа чынам газета фінансуецца?**

— За кошт узносаў і добраахвотных ахвяраванняў. У газеце ёсць рубрыка «Дапамога сяброў», дзе паведамляецца, хто і колькі ахвяраваў.

**— Калі гэта не камерцыйная тайна — колькі ахвяравалі вы, будучы ўжо пры «ідэалагічнай» пасадзе ў выканкаме?**

— Камерцыйная тайна — яшчэ, барані Бог, жонка пачытае! (Усміхаецца.)

**— Вы атрымліваеце зарплату ў газеце?**

— Не. Ды і нашы супрацоўнікі за сваю працу атрымліваюць вельмі мала, газета робіцца фактычна на грамадскіх пачатках.

**— У Беларусі дзве кампартыі — КПБ і ПКБ. Яны істотна адрозніваюцца?**

— Стратэгічныя мэты аднолькавыя, а тактычныя — розныя. ПКБ нецярпіма адносіцца да цяперашняй улады. Яе лідэры лічаць, што ўсе беды ў рэспубліцы — ад прэзідэнта, а каб з ім змагацца, можна аб'яднацца нават з БНФ. Наша партыя лаяльна ставіцца да ўлады, мы з БНФ і ў страшным сне не аб'яднаемся!

**— У «камуністычныя» часы модна было разглядаць персанальныя «клубнічныя» справы, прычым «прыпячатаць» чалавека маглі жорстка. Зараз пытанні з «маральным абліччам» вырашаюцца больш дэмакратычна?**

— Маральнае аблічча для любога чалавека мае асаблівае значэнне: ёсць людзі прыстойныя і не... Але дзяржаве, партыі, безумоўна, не трэба было лезці да людзей у ложак. Іншая справа, ініцыятыва заўсёды зыходзіла аднекуль: пісаліся даносы, скаргі — хтосьці «сігналізаваў».

**— Віктар Валянцінавіч, некалькі гадоў таму ў адным з нумароў «Свабоды» былі змешчаны даволі пікантныя фотаздымкі (вы «пад мухай», у кампаніі вясёлых дам), рэпліка называлася «Ці помніш ты, Чыкін, шчаслівы мамэнт»? Калі б такая публікацыя з'явілася ў ранейшыя часы, вас па галоўцы не пагладзілі б?**

— Я ўжо рэкамендаваў спадару Глёбусу (аўтару згаданай публікацыі) пры сустрэчы са мной пераходзіць на другі бок вуліцы. Самае цікавае, што больш мы не сустракаліся — відаць, ён зрабіў высновы... Здымкі рабіла жонка Глёбуса на дні нараджэння манекеншчыцы Тамары Ганчаровай (яна добрая знаёмая маёй жонкі). Ну і што тут такога? Дарэчы, мая жонка таксама была побач і яшчэ тады мне сказала: глядзі, гэтае фатаграфаванне калі-небудзь дрэнна скончыцца. Так і атрымалася, здымкі з асабістага архіва трапілі ў газету... Гэты факт цудоўна характарызуе сям'ю Глёбусаў: іх паклікалі на дзень нараджэння, яны елі-пілі, гаварылі добрыя словы, а потым... У прынцыпе, мяне тут мала што можа зачапіць — наадварот, гэта выдатная рэклама.

**— На старонках сваёй газеты вы апублікавалі адпаведны адказ?**

— Не, але перад гэтым мы расказалі, як сям'я Глёбусаў прыватызавала адзін дзіцячы часопіс. А потым — не звязваўся, каб не запэцкацца...

**— Гледзячы на здымкі, міжволі прыходзіць думка: Чыкін, мабыць, мае шалёны поспех у жанчын?**

— Не заўважаў... Прынамсі, пра гэта меркаваць жанчынам, а не мне.

**— Жонка не раўнуе?**

— Думаю, не. Мы пажаніліся 22 гады таму, 13 сакавіка. Сын вучыцца ў радыётэхнічным інстытуце (універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі), дарэчы, жонка заканчвала менавіта гэты інстытут, а я — політэхнічны.

**— Дзе вы пазнаёміліся?**

— У студэнцкім атрадзе, на будаўніцтве Лукомскай ДРЭС у 1968 годзе. Працавалі ў суседніх атрадах.

**— Так доўга заляцаліся — 8 гадоў?**

— Затое столькі гадоў мы разам!

**— Лічба 13, чортаў тузін, многіх палохае, а вы ажаніліся менавіта 13-га. Не верыце ў прымхі-забабоны?**

— Большую частку жыцця я пражыў у доме № 13 і 13-й кватэры. У нас жыве чорная кошка. І сабака.

**— Відаць, шыкоўная кватэра?**

— Не, двухпакаёвую кватэру плошчай 28,3 кв. м атрымаў, працуючы сакратаром Савецкага райкама камсамола.

**— Па дому ў вас ёсць нейкія абавязкі, альбо ўвесь вольны час аддаяце партыйным справам?**

— Хатнімі справамі займаюся мала. Галоўны абавязак — будаўніцтва дачы. Гэта «будоўля веку», восьмы год цягнецца. Пакідаючы працу на Мінскім гадзіннікавым заводзе, узяў дачны ўчастак. Акурат у той час раскручвалася кампанія барацьбы з прывілеямі — каб не ствараць праблем, работнікі парткама не атрымлівалі ні ўчасткаў, ні машын... Як бы ні быў заняты на рабоце, заўсёды сам мыю і прасую сваю вопратку. А штаны жонцы проста не даверу прасаваць — яна неяк хітра іх прасуе і ад гэтага, мне здаецца, яны не становяцца лепшымі.

**— Кажуць, ваша жонка манекеншчыца?**

— Калісьці была манекеншчыцай. Зараз працуе ў камерцыйнай структуры, якая займаецца касметыкай.

**— Як яна ставіцца да вашай камуністычнай стойкасці?**

— Нармальна... Яе, дарэчы з-за маёй камуністычнай стойкасці звольнілі з Дома мадэляў — у той час партыя была ледзь не ў падполлі, і слова «камуніст» вымаўлялася амаль як непрыстойнае.

**— Віктар Валянцінавіч, раскажыце, калі ласка, пра свае захапленні. Займаецеся спортам?**

— Апошнім часам амаль што не. У мінулым я — кандыдат у майстры спорту па фехтаванню. Больш таго, маю перамогу над чэмпіёнам свету АляксеемНіканчыкавым. Той бой часта сніцца і зараз — хаця ўвогуле ўсё атрымалася выпадкова: на першынстве клуба «Дынама» я трапіў з Ніканчыкавым у адну групу. Праўда, мая перамога нічога не вырашала, я паспяхова «вылецеў» у наступным крузе, але тым не менш... Калі працаваў у будатрадзе на ліквідацыі наступстваў землятрусу ў Кіргізіі, пачаў захапляцца альпінізмам.

**— Якая музыка вам падабаецца?**

— Другога такога бітламана, якім у юнацтве быў я, знайсці, мабыць, немагчыма. Ведаў на памяць усе тэксты песень ансамбля «Бітлз», спрабаваў нешта «пераняць» на гітары... А ўвогуле аддаю перавагу класічнай музыцы.

**— Вы — атэіст?**

— Так. Мой прадзед, дарэчы, быў праваслаўным святаром. І мой псеўданім ўзяты не выпадкова, В. Нікольскі — прозвішча прадзеда. Адна з першых кніг, якую прачытаў, — Біблія... У Бога не веру, але да рэлігіі адношуся спакойна. Лічу, што рэлігія — гэта «мыліцы», «акуляры». Некаторым людзям для таго, каб жыць нармальна, неабходна ў нешта верыць. Калі рэлігія дапамагае захоўваць законы маралі, я не супраць.

**— Але, магчыма, на Вялікдзень таксама будзеце стаяць у царкве перад тэлекамерай?**

— Я ж не Барыс Ельцын!

**— Якімі, на ваш погляд, павінны быць адносіны ўлады і царквы?**

— Яны былі сфармуляваныя У. І. Леніным: царква аддзелена ад дзяржавы і школа — ад царквы. У Беларусі зарэгістравана некалькі дзесяткаў канфесій. У мінулым годзе адзначалася 600-годдзе пасялення татар у Беларусі, падчас гэтага святкавання ў Мінску была закладзена мячэць.

**— Віктар Валянцінавіч, вы курыруеце работу камісіі па барацьбе з п'янствам: ведзяце цвярозы лад жыцця?**

— Днямі да мяне прыходзілі прадстаўнікі Беларускага таварыства цвярозасці з шэрагам прапаноў і просьбаў. Але напачатку прачыталі мне прапаведзь з нагоды таго, што я сядзеў з цыгарэтай... Да ліку непітушчых сябе не адношу. У час гарбачоўскай перабудовы, калі актыўна ствараліся таварыствы цвярозасці, на гадзіннікавым заводзе мы даволі доўга не стваралі гэтай структуры. Не памятаю, ці стварылі яе ўвогуле?

**— Шмат размоў пра маральнае падзенне грамадства, і не толькі размоў... Як вы ставіцеся да ідэі легалізацыі прастытуцыі?**

— Надзвычай адмоўна. У нас паўстагоддзя не было ніякай праблемы з прастытуцыяй — калі ў краіне захоўваліся прынцыпы сацыяльнай справядлівасці. Безумоўна, ёсць невялікі працэнт жанчын, якія займаюцца «гэтым» дзеля задавальнення, аднак асноўная частка «начных матылькоў» вымушана ісці на панель па прычыне дрэнных жыццёвых умоў.

**— Ці можа дрэнны камуніст (ці антыкамуніст) быць добрым чалавекам?**

— Ну і пытанне!.. У прынцыпе, каб стаць камуністам, трэба авалодаць усёй сумай ведаў, назапашаных чалавецтвам. Цудоўныя ленінскія словы!... Таму, калі чалавек называе сябе антыкамуністам, дык толькі па дзвюх прычынах: ён або невук, або скупы.

**— ???**

— Таму што тэорыя марксізму-ленінізму і ідэалогія, якая стаіць за ёю, пераконвае: нельга карыстацца вынікам працы іншага чалавека, нельга прысвойваць сабе тое, што зрабіў іншы. А антыкамуніст крычыць аб свяшчэнным праве на прыватную ўласнасць, дазваляючы гэтым самым залазіць у кішэню каму заўгодна. Так што любы антыкамуніст — гэта злодзей. Успомніце хаця б чубайсаўскую каробку.

**— Хіба даказана?**

— Якія яшчэ доказы вам патрэбны?! Калі б каробку выносіў, напрыклад, Зюганаў ці Купцоў, то абавязкова б дакапаліся і даказалі... Увогуле мяне бярэ жах ад таго, якія людзі прыйшлі да ўлады пасля камуністаў. «Дэмакраты»! Усё самае дрэннае, што рабілі калісьці бальшавікі, яны паўтарылі — толькі ў больш вытанчанай форме і больш жорстка. Успомніце, як разганялі Устаноўчы Сход — калючым дротам Таўрычаскі палац не агароджвалі, з пушак не палілі, туалет не адключалі. Ну, прыйшоў матрос Жалязняк: «Караул устал» — і ўсе ціха-мірна разышліся. А што робяць дэмакраты ў кастрычніку 1993-га? Ідзём далей: як чачэнская праблема вырашалася? Ну, жыхароў Паўночнага Каўказа вывезлі ў Паўночны Казахстан. Але не бамбілі Грозны, не ўводзілі войскі... Сталін выглядае гуманістам на фоне Ельцына! У нас у рэспубліцы — праблема са зладзеямі. Па вялікаму рахунку, ніякіх прадпрымальнікаў у Беларусі няма — ёсць зладзеі, з якімі разбірацца павінны не палітычныя партыі, а крымінальны вышук.

**— Смелая заява!**

— Ну падумайце, адкуль у чалавека раптам можа ўзяцца першапачатковы капітал? Дапусцім, хтосьці меў доступ да ўлады і інфармацыі — узяў вялікі крэдыт, ведаючы пра інфляцыю.

**— Гэта злачынства?**

— А што ж? Звычайнае махлярства... Некаторыя дырэктары за вельмі смешныя грошы прыватызавалі аб'екты сацкультбыту, заводскія магазіны, дзіцячыя садзікі. У выніку «тэндэра» гэта маёмасць аказвалася ўласнасцю фірмаў, якія ўзначальвалі дырэктарскія дзеткі. Злоўжыванне службовым становішчам! Прыватызацыя, з любога пункту гледжання, ненармальная з'ява. Настане час, і ў Крымінальным кодэксе з'явіцца артыкул «Злачынствы прыватызацыі». Давядзецца адказваць. Гэтак жа, як зараз вяртаецца ўласнасць царкве, вернецца дзяржаве прыватызаваная маёмасць...

**— Віктар Валянцінавіч, прабачце, але ці не з'яўляецца ідэя камунізму утапічнай?**

— Камунізм прыйдзе на змену цяперашняму ладу жыцця. Увогуле, сучасная эпоха — гэта эпоха адыходу ад капіталізму. Дый няма ўжо таго капіталізму, у які нас імкнуцца запіхнуць: ЗША, Японія, усе цывілізаваныя краіны жывуць у посткапіталістычным грамадстве. Калі раней капіталіст кожнай краіны рабаваў свайго, айчыннага, рабочага, то зараз «залаты мільярд», дзесятак найбольш развітых краін свету, рабуе так званы «трэці свет».

**— Нас хтосьці рабуе?**

— Нас пакуль не, але патроху пачынаюць... Усё багацце так званых цывілізаваных краін яшчэ ў тым, што яны ўстанавілі неэквівалентны абмен з рэсурсаздабыўнымі краінамі. Зараз, як ні дзіўна, але ў адносінах да «трэцяга свету» нават беспрацоўныя ЗША выступаюць як эксплуататары: у амерыканскага капіталіста няма неабходнасці рабаваць свайго рабочага, ён рабуе рабочых Афрыкі, Азіі... Смяяліся над планавай сістэмай сацыялізму, а я бачыў, як планавая сістэма дзейнічае ў іншых краінах: на маіх вачах закопвалі ў зямлю апельсіны ў Грэцыі. Селянін прывёз звышпланавую прадукцыю — яму плацяць палову кошту, астатняе знішчаюць, інакш па закону рынку на апельсіны знізіцца цана. Вось грахі капіталізму. А пры сацыялізме такое ў прынцыпе немагчыма!

**— Хто-небудзь альбо штонебудзь можа прымусіць вас стаць на калені?**

— Ніхто і нішто. Толькі, магчыма, асэнсаванне ўласнай віны. А ўвогуле чалавек ніколі не павінен станавіцца на калені.

**Гутарыла**
**Тацццяна ПАДАЛЯК.**

# МІХНЕВІЧ Юрый Міхайлавіч

Пасля працяглай хваробы на 73-м годзе жыцця памёр вядомы дзеяч культурнага будаўніцтва Беларусі, былы міністр культуры Міхневіч Юрый Міхайлавіч.

Нарадзіўся Юрый Міхайлавіч Міхневіч 18 снежня 1925 года ў Мінску ў сям'і служачага. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі вучыўся ў Куйбышаўскім ваенна-пяхотным вучылішчы, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. У пасляваенны перыяд па заканчэнні ў 1951 годзе Беларускага дзяржаўнага універсітэта працаваў у камсамольскіх і партыйных органах Мінска і вобласці, затым начальнікам упраўлення культуры Мінскага аблвыканкама.

З 1966 года — намеснік міністра культуры, а з лістапада 1971 года быў прызначаны на пасаду міністра культуры БССР, на якой знаходзіўся больш як 16 гадоў.

Вопыт работы ў партыйных органах і дзяржаўных установах, вялікая працаздольнасць, прынцыповасць і шырыня інтэлектуальнага дыяпазону стварылі Юрыю Міхайлавічу Міхневічу высокі аўтарытэт нястомнага арганізатара і прапагандыста беларускай культуры.

Юрыя Міхайлавіча Міхневіча добра ведалі, любілі, цанілі яго веды ва ўсіх кутках Беларусі. Яго прафесійных парад і заўваг чакалі і ў маленькім сельскім клубе, бібліятэцы, і ў вялікіх творчых калектывах прафесійнага мастацтва.

Шмат энергіі і душэўнага клопату ён аддаваў справе станаўлення і развіцця новых аб'ектаў культуры на вёсцы, праблемам эстэтызацыі навакольнага асяроддзя, падрыхтоўцы і выхаванню высокакваліфікаваных творчых кадраў, пытанням пастаяннага павышэння майстэрства і сцэнічнай культуры калектываў прафесійнага мастацтва і самадзейнай творчасці.

Пры яго актыўным удзеле і падтрымцы за гады працы быў створаны шэраг новых мастацкіх калектываў Беларусі, многія з якіх прынеслі рэспубліцы вялікі аўтарытэт і славу.

Дзяржава высока ацаніла шматгранную дзейнасць Ю.М.Міхневіча. Ён быў узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Дружбы народаў, Айчыннай вайны І ступені і многімі медалямі, неаднаразова выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Светлая памяць пра Юрыя Міхайлавіча Міхневіча — чалавека, які прысвяціў сваё жыццё справе развіцця беларускай культуры і мастацтва, назаўжды застанецца ў сэрцах тых, хто ведаў яго, хто працаваў разам з ім.

**С.С.Лінг, П.У.Шыпук, А.А.Малафееў, У.П.Замяталін, М.Ф.Дамашкевіч, І.І.Антановіч, А.У.Сасноўскі, Н.М.Мазай, У.П.Рылатка, М.М.Яроменка, Г.В.Буралкін, І.В.Волчак, У.А.Гілеп, М.П.Дрынеўскі, А.А.Дудараў, В.В.Зуёнак, Я.М.Кавалеўскі, І.М.Лучанок, Г.М.Алейнік, Г.І.Баркун, Ю.Л.Вута, Э.І.Герасімовіч, В.І.Гаявая, Я.Д.Грыгаровіч, Г.Б.Давыдзька, Ж.К.Дапкюнас, В.У.Дудкевіч, В.М.Елізар'еў, І.П.Загрышаў, М.А.Казінец, Э.Л.Луневіч, У.Г.Мулявін, У.П.Ратабыльскі, Р.Б.Смольскі, Н.Л.Сняжкова, М.Я.Фінберг, Р.І.Шацько.**

*Post Factum*

## Гэты дзень у гісторыі

- **18 сакавіка 1584 года** памёр першы рускі цар Іван IV (Грозны).
- **У гэты дзень у 1837 годзе** нарадзіўся Стывен Гровер Кліўленд, амерыканскі дзяржаўны дзеяч, 22-гі і 24-ты прэзідэнт ЗША. Яго выява змешчана на 1000-доларавай купюры.
- **У гэты дзень у 1842 годзе** нарадзіўся славуты французскі паэт-сімваліст эпохі дэкаданса Стэфан Малармэ.
- **18 сакавіка 1844 года** з'явіўся на свет рускі кампазітар Мікалай Андрэевіч Рымскі-Корсакаў, аўтар опер «Снягурачка», «Садко», «Царская нявеста» і інш.
- **У 1858 годзе ў гэты дзень** з'явіўся на свет Рудольф Дызель, нямецкі інжынер, стваральнік рухавіка ўнутранага згарання.
- **18 сакавіка 1869 года** нарадзіўся Нэвіл Чэмберлен, англійскі прэм'ер, які ў 1938 годзе падпісаў так званую Мюнхенскую змову. Памятны таксама і «наш адказ Чэмберлену».
- **18 сакавіка 1871 года** ў выніку паражэння банапартысцкага рэжыму ў франка-прускай вайне 1870—1871 гг. і антынацыянальнай палітыкі ўрада Трэцяй рэспублікі ў Парыжы выбухнула паўстанне пралетарыяту, якое звергла панаванне буржуазіі. Парыжская Камуна існавала да 28 мая 1871 года.
- **У гэты дзень у 1918 годзе** Рада Усебеларускага з'езда абвясціла сябе Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, узяўшы на сябе функцыі парламента Беларусі.
- **18 сакавіка 1921 года**, паводле Рыжскага мірнага дагавору, заходняя частка Беларусі з насельніцтвам больш як 3 мільёны чалавек была перададзена Польшчы.
- **У гэты ж дзень таго ж 1921 года** падаўлены Кранштацкі мяцеж.
- **18 сакавіка 1965 года** адбыўся першы ў гісторыі выхад чалавека ў космас — савецкі касманаўт Аляксей Лявонаў на працягу 10 хвілін знаходзіўся за бортам карабля «Усход-2».

## І так бывае

***Арабскі баксёр-прафесіянал Халід Рахіму жыве ў пастаянным страху: дзень пры дні ён чакае страшнай кары Алаха.***

У пачатку года Халід апынуўся перад жорсткім выбарам — захоўваць свяшчэнны для кожнага мусульманіна пост Рамадан ці рыхтавацца да жыццёва важнага для яго паядынку за званне чэмпіёна свету ў лёгкай вазе. Сумясціць жа адно з другім было немагчыма. Халід яшчэ мог пераносіць забарону на яду на працягу дня да таго часу, пакуль на небе не з'явяцца зоркі. Але горш за ўсё тое, што забараняецца яшчэ і піць. У час трэніровак яго арганізм практычна абязводжваўся, і Халід вымушаны быў папаўняць запасы вадкасці, не чакаючы наступлення ночы. І тады ён прыйшоў да думкі, што прафесія баксёра не дазваляе яму захоўваць Рамадан, але Алах павінен яму дараваць.

— Дзеля сваёй будучыні я павінен перамагчы ў Парыжы Жана Мендзі, таму мне давядзецца ахвяраваць Рамаданам, — вырашыў Халід.

Сям'я баксёра ў асобе яго жонкі і васьмігадовага сына строга выконвалі правілы посту, са страхам назіраючы за тым, як грашыць іх карміцель.

## Цікава

Адна іспанская фірма выпусціла кампакт-дыск, прызначаны для... сабак. На ім запісана адзінаццаць класічных твораў, дзіцячы смех, сабачы брэх і ўдары сэрца. Пласцінка рэкамендавана спецыялістамі для заспакойвання і гарманізацыі сабачай псіхікі. Прычым іх рэкамендацыі заснаваны на сур'ёзных навуковых даследаваннях. Выпуск такога кампакт-дыска не трэба ўспрымаць як нейкі чарговы кур'ёз з жыцця «загніваючага» Захаду.

## А яшчэ быў выпадак

***Справа была даўно, на параходзе, які ціха стаяў у бухце аднаго з Курыльскіх астравоў, дзе я працаваў радыстам, успамінае былы матрос Ігар Шабанаў. «Працаваў» я тады ў сэнсе абеду ў кают-кампаніі паміж прэферансам у каюце і сном у радыёрубцы. Трэба асабліва адзначыць, што гарэлка, узятая з сабой з «Вялікай зямлі», якраз закончылася, і цяжкае пахмелле падбіралася да маракоў.***

...Прыблізна ў тры гадзіны ночы немы крык узрушыў ціхі рэйд. Экіпаж паўскокваў у чым быў, гадамі выпрацаваная прывычка ўсіх расставіла па месцах. На масцік вылецеў вахценны механік з вырачанымі вачамі і поўнай адсутнасцю мовы.

Шклянка вады прывяла яго ў прытомнасць, але акрамя незразумелага «та-а-ам рука» больш нічога не дабіліся. Затым, блытаючыся і збіваючыся, механік расказаў, як ён, падганяемы пахмельным сіндромам, бадзяўся па параходу і забрыў у каюту да трэцяга штурмана.

Трэці быў на вахце, каюта адчынена. У кутку стаяла пральная машына, на стале ляжала кніга — штосьці з кашмараў Хічкока. Млеючы ад суму механік прылёг на канапу пачытаць.

Далей з яго слоў: «Ляжу, чытаю. Раптам чую вантробнае парохкванне. Услухоўваюся. Незразумелыя гукі то сціхаюць, то зноў раздаюцца. Раптам гляджу, у пральнай машыны крышка прыўзнімаецца. Апусцілася. Зноў паднімаецца. Устаў, падыходжу, крышку ўзнімаю, а адтуль — чорная рука!»

Далей камісія па выяўленню нячыстай сілы ў саставе капітана і старпома спусцілася ў каюту трэцяга механіка і дастала з пральнай машыны... каністру бражкі з надзетай на яе дыэлектрычнай пальчаткай, якую трэці хаваў там ужо каторы дзень.

## Анекдот

*Мужчына сустрэў свайго старога прыяцеля, зараз генерала.*

*— Слухай, Вася, як ты ўмудрыўся стаць генералам? Наколькі я памятаю, у школе ты на любое пытанне адказваў «Я нічога не ведаю».*

*— А я і зараз кажу: «Я нічога не ведаю. Але да раніцы каб было!»*

# Тры пытанні да чытача

**Валянціна ПАЛЕВІКОВА, сакратар выканкама Федэрацыі прафсаюзаў, старшыня Беларускай партыі жанчын «Надзея»**

**1. Чаму вы чытаеце «Звязду»?**

— «Звязду» чытаю і паважаю перш-наперш таму, што, нягледзячы на ўсе перамены апошніх гадоў, газета не кідалася ў крайнасці, а захавала ўласную ўзважлівую пазіцыю, захавала ўласны твар.

**2. Што падабаецца ў газеце?**

— Заўсёды складана пісаць аб праблемах канкрэтнага працоўнага калектыву і канкрэтнага чалавека, удвая складаней — пісаць пры тым шчыра і аб'ектыўна. Мяркую, што якраз гэта журналістам «Звязды» ўдаецца.

**3. Што вам хацелася б пажадаць цяперашняй «Звяздзе»?**

— Хацелася б, каб газета больш увагі ўдзяляла жанчыне і сям'і. На мой погляд, калі б у «Звяздзе» з'явілася нават спецыяльная «жаночая» старонка, то газета і яе чытачы толькі б выйгралі.

НА СТАЛЕ ў прэзідэнта Беларускага дзяржаўнага энергетычнага канцэрна «Белгалоўэнерга» Валянціна Герасімава прыгожа аформлены графік прагнозу электраспажывання ў рэспубліцы да 2015 года. На ім дакладна паказана, колькі скарыстана электраэнергіі з 1990 года, калі пачалося рэзкае скарачэнне яе выпрацоўкі і спажывання. Круты спад пачаўся недзе з 1992 года, а самыя нізкія паказчыкі характарызуюць 1995 год. Потым стала назірацца паступовае павелічэнне спажывання электраэнергіі. І здзіўляцца тут няма чаму, бо энергетыка — тое люстэрка, у якім адлюстроўваюцца важнейшыя працэсы нашай прамысловай вытворчасці і ў цэлым усёй народнай гаспадаркі.

Тыя палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя пераўтварэнні, якія адбываюцца ў грамадстве, эканоміцы рэспублікі, не маглі абмінуць і ключавой галіны вытворчасці — энергетыкі. Летась завяршыўся працэс рэарганізацыі Міністэрства паліва і энергетыкі. На яго базе быў створаны канцэрн «Белгалоўэнерга». А вось чым былі выкліканы падобныя пераўтварэнні, якія выгоды прынясе гэта народнагаспадарчаму комплексу краіны, мы і паспрабавалі высветліць у час гутаркі з прэзідэнтам канцэрна Валянцінам ГЕРАСІМАВЫМ.

Прэзідэнт канцэрна «Белгалоўэнерга» Валянцін ГЕРАСІМАЎ.

Машынная зала Лукомскай ДРЭС.

Валянцін ГЕРАСІМАЎ:

# «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЕРГЕТЫКА ЎПЭЎНЕНА АСВОЙВАЕЦЦА Ў РЫНАЧНЫХ УМОВАХ»

— Пры ранейшай структуры Мінпаліваэнерга выконвала адразу дзве функцыі, — гаворыць Валянцін Васільевіч. — З аднаго боку, яно ажыццяўляла дзяржаўнае кіраванне паліўна-энергетычным комплексам, а з другога — рэгулявала вытворчую дзейнасць. Ствараючы канцэрн «Белгалоўэнерга», функцыі дзяржаўнага кіравання і рэгулявання энергетычным комплексам вырашана было перадаць Міністэрству эканомікі. За канцэрнам жа пакінулі чыста вытворчыя задачы. Вядома, тыя структурныя пераўтварэнні былі выкліканы ў першую чаргу рэформамі, што адбываюцца ў эканоміцы, ды і ў цэлым у народнай гаспадарцы. Беларуская энергетыка ўпэўнена асвойваецца ў рыначных умовах. Ужо дзесяць энергетычных прадпрыемстваў сістэмы сталі акцыянернымі таварыствамі. Паказальны ў гэтым плане вопыт калектыву «Белэнергарамналадка», які аб'ядноўвае каля 2 тысяч чалавек. Летась гэта прадпрыемства было пераўтворана ў акцыянернае таварыства. І хоць прайшло не так шмат часу пасля рэарганізацыі, аднак ужо ёсць і пэўныя поспехі. І галоўнае, бадай, у тым, што людзі пачынаюць разумець: яны становяцца сапраўднымі гаспадарамі на вытворчасці, што гэта — іх прадпрыемства! На чарзе структурнае пераўтварэнне і непасрэдна на саміх электрастанцыях. Яны з'яўляюцца галоўнымі вытворцамі электраэнергіі. У той жа час гэтыя буйныя прадпрыемствы нават не маюць свайго рахунку ў банку, а значыць яны пазбаўленыя магчымасці самастойна распараджацца ўласнымі сродкамі. У будучым бачыцца такая схема: электрастанцыі стануць паўнапраўнымі ўласнікамі, будуць выпрацоўваць электраэнергію і прадаваць яе абласным энергетычным прадпрыемствам, а тыя — ужо непасрэдна спажыўцам. На гэтым этапе ўзрасце роля электрастанцыі як асноўнага вытворцы энергіі. У выніку самі энергетыкі будуць зацікаўленыя ў зніжэнні затрат, а адпаведна і ў змяншэнні сабекошту электраэнергіі. Значныя сродкі можна будзе накіраваць на капітальны рамонт, мадэрнізацыю энергетычнага абсталявання. А каб паказаць, якое гэта будзе мець значэнне для ўсёй нашай эканомікі, спашлюся на канкрэтны прыклад. Як вядома, тэрмін службы энергаблокаў самай магутнай у рэспубліцы Лукомскай ДРЭС, на долю якой прыпадае каля паловы ўсёй выпрацоўваемай электраэнергіі, разлічаны на 30 гадоў эксплуатацыі.

Дык вось, у снежні будучага года якраз спаўняецца 30 гадоў з дня пуску першага такога энергаблока. На падыходзе да такога рубяжа і астатнія энергамашыны. Сродкаў жа ў дзяржавы для іх мадэрнізацыі няма. А таму неабходна пераводзіць электрастанцыі на ўласны баланс, з тым каб самім зарабляць сродкі, у тым ліку і на мадэрнізацыю вытворчасці. У гэтым і толькі ў гэтым бачыцца выйсце з такога незайздроснага становішча, у якім апынулася наша энергетыка.

***— Вы спасылаецеся на недахват сродкаў, а між тым у Оршы будуецца новая электрастанцыя. Адкуль рэсурсы?***

— Сапраўды, у раёне льнокамбіната, побач з ужо дзеючай ЦЭЦ, завяршаецца будаўніцтва новай электрастанцыі. Яшчэ 16 снежня 1993 года было падпісана пагадненне з Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця аб выдзяленні Міністэрству энергетыкі нашай рэспублікі крэдыту ў суме 48,6 мільёна долараў ЗША на мадэрнізацыю Аршанскай ЦЭЦ і стварэнне там парагазавай устаноўкі. Дарэчы, адной з умоў выдзялення крэдыту якраз і было далейшае рынкавае пераўтварэнне ў энергетыцы, а менавіта рэарганізацыя міністэрства ў энергетычны канцэрн. І ўвогуле замежны капітал аддае перавагу прыватным прадпрыемствам, прасцей кажучы, не хоча мець справы з дзяржаўнай уласнасцю. І вось у канцы 1994 года колішняе Міністэрства энергетыкі Рэспублікі Беларусь аб'явіла тэндэр на распрацоўку праекта, пастаўку абсталявання, ажыццяўленне мантажу і пуску Аршанскай электрастанцыі з камбінаваным цыклам. У сакавіку і верасні 1995 года адбыліся два тэндэры. У іх прынялі ўдзел фірмы Швецыі, Аўстрыі, Фінляндыі, Італіі, Францыі і Швейцарыі. А 16 студзеня 1996 года па рашэнню ацэначнай камісіі пераможцай стала французская фірма «Гек Алстом». Неўзабаве побач з дзеючай Аршанскай ЦЭЦ пачаліся работы па ўзвядзенню новай электрастанцыі. Дарэчы, усе будаўнічыя і мантажныя работы вялі нашы энергабудаўнікі, у асноўным будаўнічага ўпраўлення Лукомскай ДРЭС, іншых будаўнічых арганізацый сістэмы. Французскія спецыялісты вялі нагляд за ходам работ, дапамагалі ў мантажы электраабсталявання і прыбораў кантролю. Ужо 22 снежня мінулага года — усяго праз год з пачатку будоўлі быў ажыццёўлены пробны пуск станцыі. Цяпер там завяршаюцца пусканаладачныя работы, а ўжо ў красавіку электрастанцыя будзе ўведзена ў рэжым эксплуатацыі. Фактычна гэта станцыя — праобраз энергетыкі XXI стагоддзя.

***— Мы гаворым пра вытворчасць электраэнергіі, нарошчванне энергетычнага патэнцыялу рэспублікі, але не менш важная і праблема энергазберажэння...***

— Сапраўды, гэта праблема агульнадзяржаўная. Аднак не варта ўсё зводзіць да простага пераліку тых жа лямпачак, што гараць іншы раз у дзённы час. Або, скажам, завезлі з-за мяжы некалькі тысяч энергазберагальных лямпаў — і ўжо вырашана пытанне энергазберажэння! Гэта справа куды больш маштабная, чым можа здацца на першы погляд. Важна найперш дабіцца ўкаранення энергазберагальных тэхналогій ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Хіба можна ставіць на паток, няхай сабе і найноўшую мадэль тэлевізара, калі ён намнога больш спажывае электраэнергіі, чым аналагічны замежны апарат? Тое ж самае і адносна іншых бытавых электрапрыбораў, якіх нямала выпускаецца ў рэспубліцы.

***— Дзякаваць Богу, здаецца, як у нашай краіне, так і ва ўсім свеце мінае перыяд гігантаманіі. Цяпер усё больш увагі ўдзяляецца пошуку мясцовых крыніц энергіі. Яны больш даступныя, танныя. У той жа багатай Галандыі шырока выкарыстоўваецца сіла ветру. Павышаная ўвага ўдзяляецца развіццю гідра- і біяэнергетыкі. А што ў гэтым плане робіцца ў нашай рэспубліцы?***

— Мы вядзём пэўныя распрацоўкі па выкарыстанню энергіі ветру для стварэння невялікіх энергаўстановак, накшталт тых, што ёсць у Галандыі. Аднак гэта патрабуе немалых затрат. Сродкаў жа катастрафічна не хапае. Што датычыцца гідраэнергетыкі, то гэты напрамак заслугоўвае самай пільнай увагі. У свой час у рэспубліцы дзейнічала каля сотні невялікіх па сённяшніх мерках гідрастанцый. Іх агульная магутнасць складала недзе каля 200 мегават. А потым, калі быў узяты курс на стварэнне буйных электрастанцый, увага да малой энергетыкі аслабела. Усе гэтыя невялікія ГЭС былі закансерваваныя. А што значыць у нашых умовах гэтая самая «кансервацыя»? Словам, усе яны патрабуюць аднаўлення. І я ганаруся тым, што, калі яшчэ працаваў генеральным дырэктарам «Віцебскэнерга», непасрэдна арганізаваў аднаўленне Дабрамысленскай ГЭС, што ў Лёзненскім раёне. Яна ў 1989 годзе зноў уступіла ў эксплуатацыю. І наогул гэтую справу лічу вельмі перспектыўнай. Калі сабекошт кілават-гадзіны на буйных сучасных ДРЭС складае недзе каля 4 цэнтаў, то на гідрастанцыі ён менш аднаго цэнта.

І вось ужо па ўсёй рэспубліцы пачалі аднаўляць гэтыя самыя гідрастанцыі. Не так даўно ў Астравецкім раёне адноўлена Янаўская ГЭС. У тым жа Астравецкім раёне пачалося аднаўленне яшчэ адной гідрастанцыі, якая належыць мясцовай кардоннай фабрыцы. Запрацавала першая з трох турбін. І ўвогуле вытворчае аб'яднанне «Гроднаэнерга» паказвае тут добры прыклад. Па ацэнках мясцовых спецыялістаў, выкарыстанне энергіі ГЭС можа даць прыбаўку каля 95 тысяч кілават устаноўленай магутнасці, што дазволіць выпрацоўваць дадаткова ў год каля 200 мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі. І гэта толькі ў адной вобласці.

Немалаважнае значэнне мае і далейшая распрацоўка газагенератарных установак, якія будуць працаваць на адходах драўніны. У Бешанковіцкім раёне ўжо дзейнічаюць катлы, якія працуюць на драўнінных шчэпках. Калі ўлічыць, што ў рэспубліцы штогод нарыхтоўваецца недзе каля 700 тысяч кубаметраў дроў, то выкарыстанне газагенератарных установак абяцае вялікую эканомію энергарэсурсаў. Усё гэта разам узятае яшчэ раз пацвярджае, што і малая энергетыка мае вялікае значэнне, тым больш ва ўмовах рынку, калі даводзіцца лічыць кожную кілават-гадзіну электраэнергіі, кожную гігакалорыю цяпла.

***— І ўсё ж, калі мы ўжо пачалі гаворку пра малую энергетыку, то, здаецца, найбольш эфектыўным напрамкам у выкарыстанні мясцовых відаў энергіі з'яўляецца менавіта гідраэнергетыка. Тым больш калі ўлічыць, што ў рэспубліцы ў стане кансервацыі недзе каля 100 гідраэлектрастанцый. Аднак для іх аднаўлення сродкаў у дзяржавы нестае. Дык чаму б не скарыстаць для гэтых мэтаў прыватны капітал?***

— Мы ўвогуле не супраць гэтага. На большасці станцый захаваліся плаціны, насыпныя дамбы, будынкі, на якія затрачаны немалыя дзяржаўныя сродкі. А ўвогуле аднаўленне падобных электрастанцый можа прынесці значную эканамічную выгоду. Па-першае, затраты на іх аднаўленне не такія ўжо і вялікія, а па-другое, акупяцца яны вельмі хутка. Словам, калі ёсць ахвотнік укласці свае сродкі ў гэтую высакародную справу, канцэрн «Белгалоўэнерга» гатовы да такога супрацоўніцтва.

На блочным пульце кіравання Лукомскай ДРЭС;

РЭПАРТАЖ

# СТАНЦЫЯ XXI СТАГОДДЗЯ

ДЫРЭКТАР АРШАНСКАЙ ЦЭЦ Генадзь Каралёў рыўком адчыніў дзверы, і ў тое ж імгненне з памяшкання данёсся такі гул, што хоць крычма крычы, нічога не пачуеш. Ужо потым, калі мы выйшлі адтуль, Генадзь Мікалаевіч растлумачыў, што тут устаноўлена газавая турбіна — таму і гул. І гэта пры тым, што турбіна практычна працуе на халастым хаду, а калі б знаходзілася пад рабочай нагрузкай, то без спецыяльнага шлемафона туды наогул не варта заходзіць. Затое ў самім цэху ціха. Гэта дасягаецца за кошт спецыяльнай гукаізаляцыі.

З цікаўнасцю аглядаем памяшканні новай электрастанцыі. Завяршаюцца апошнія аддзелачныя работы. І хоць унутры яшчэ шмат рыштаванняў, але скрозь іх праглядваецца прама-такі унікальная для вытворчых памяшканняў аддзелка сцен, рабочых вузлоў і механізмаў. Усё аж зіхаціць яркай рознакаляровай фарбай!

Перахапіўшы мой здзіўлены позірк, Генадзь Мікалаевіч, які суправаджаў нас у гэтай своеасаблівай экскурсіі, зазначыў:

— Станцыя і сапраўды унікальная. Ва ўсякім разе, на тэрыторыі сённяшняй СНД нічога падобнага няма і не будуецца. На гэтым аб'екце змантыраваны дзве газавыя турбіны, два катлы-утылізатары і адна паравая турбіна. Магутнасць новай ЦЭЦ недзе 75,4 мегавата. Яна будзе выпрацоўваць у год 555 мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі. Унікальнасць станцыі перш за ўсё ў тым, што яна будзе поўнасцю аўтаматызавана. Да таго ж вельмі эканамічная. Каэфіцыент карыснага дзеяння яе перавысіць 65 працэнтаў, што дазволіць эканоміць недзе да 50 тысяч тон умоўнага паліва ў год. Гэта вельмі высокі паказчык, бо на існуючых буйных цеплавых станцыях каэфіцыент карыснага дзеяння меншы за 50 працэнтаў.

Генадзь Мікалаевіч ведае, пра што гаворыць. Пасля заканчэння Беларускага політэхнічнага інстытута каля 18 гадоў адпрацаваў на флагмане беларускай энергетыкі — Лукомскай ДРЭС. І тут, на Аршанскай ЦЭЦ, ужо некалькі гадоў. Пры ім распрацоўваўся праект мадэрнізацыі дзеючай станцыі. Уведзеная ў эксплуатацыю яшчэ ў снежні 1961 года, Аршанская ЦЭЦ мала таго што была адносна невялікай (магутнасць яе складала ўсяго 6 мегават), а таму не задавальняла патрэбнасці растучага горада, але яшчэ і нізкапрадукцыйнай. Да таго ж і абсталяванне — на грані зносу. Словам, патрабавалася карэнная рэканструкцыя ЦЭЦ. Па сутнасці, побач трэба было будаваць новую электрастанцыю. Як вядома, першачаргова Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця абяцаў на гэтыя мэты 48,6 мільёна долараў крэдыту. Але дзякуючы намаганням Міністэрства энергетыкі рэспублікі, якое выступала асноўным заказчыкам, і ўмела праведзенаму тэндару агульны кошт закупленага абсталявання зменшыўся недзе на 10 мільёнаў долараў. Паспрыяла і тое, што ўвесь аб'ём будаўнічых работ выконвалі нашы рабочыя. Спецыялісты французскай фірмы «Гек Алстом» толькі ажыццяўлялі кантроль за ходам мантажу абсталявання. Асноўным падрадчыкам выступала будаўнічае ўпраўленне Лукомскай ДРЭС. Ударна працавалі на гэтым аб'екце таксама будаўнікі прадпрыемстваў «Энергамантаж», «Электрамантаж», «Лукомльэнергамантаж»...

Высока ў неба ўзняліся дзве трубы новай электрастанцыі. Яны захапляюць нейкай сваёй вытанчанасцю.

— Тут вызначыліся мантажнікі акцыянернага таварыства «Лукомльэнергамантаж», — тлумачыць Генадзь Мікалаевіч. — Яны самі вырабілі тыя трубы, самі і змантыравалі іх. Прычым уклаліся дакладна ў тэрмін. Нават прыдзірлівыя французы не знайшлі ніякіх хібаў. Якасць мантажу выдатная. Пэўны ўклад унеслі яны таксама і ў мантаж трубаправодаў. А ўвогуле ўсе стараліся. Таму і ўклаліся ў тэрмін.

На цэнтральным пункце кіравання шчыравалі французскія спецыялісты. Яны мантыравалі прыборы кіравання, вялі наладку абсталявання. Пашкадавалі, што існуе моўны бар'ер. А як хацелася з імі пагаварыць! Тым больш, што, па словах дырэктара, усе яны вопытныя спецыялісты ды і наогул шчырыя людзі.

І нашы рабочыя, спецыялісты марна час не губляюць: з дня пачатку будоўлі праекціроўшчыкі, мантажнікі і эксплуатацыйны персанал набылі немалы вопыт асваення навейшых тэхналогій вытворчасці цеплавой і электрычнай энергіі. Важна і тое, што парагазавая тэхналогія стане асноўнай у XXI стагоддзі, таму беларускія энергетыкі атрымалі унікальную магчымасць асвоіць тэхніку новага пакалення. І ўвогуле можна ганарыцца, што менавіта на беларускай зямлі з'явілася станцыя, якая стане праобразам энергетыкі новага стагоддзя.

Дырэктар Аршанскай ЦЭЦ Генадзь КАРАЛЁЎ і інжынер «Белэнергарамналадкі» Валянцін РАДАМАН аглядаюць размеркавальнае ўстройства станцыі

Група французскіх спецыялістаў.

Так выглядае новая электрастанцыя ў Оршы.

Электрамантажнікі прадпрыемства «Электрамантаж» Пётр СУШКІН і Віктар ІЎКІН вядуць апрасоўку клемы на электрычным кабелі.

*Матэрыялы выпуску падрыхтавалі да друку спецыяльныя карэспандэнты «Звязды» Уладзімір ГОЙТАН, Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).*

## Старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку наведаў факультэт журналістыкі БДУ

Старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны сустрэўся з выкладчыкамі і студэнтамі факультэта журналістыкі БДУ. Гэта было асаблівае знаёмства кіраўніка галіны з будучымі журналістамі, а пакуль студэнтамі.

У краіне зарэгістравана больш як 1100 перыядычных выданняў, 900 з іх — недзяржаўныя, адзначыў Міхаіл Васільевіч. Дзяржаўных газет, якія маюць права распаўсюджваюць афіцыйную інфармацыю, у рэспубліцы ўсяго 6. Ёсць таксама 6 абласных і 129 раённых газет. 42 выданні фінансуюцца праз Дзяржаўны камітэт па друку. Не адмоўлена ў ліцэнзаванні ніводнай газеце. Наконт папярэджання асобных газет старшыня камітэта паведаміў: на сённяшні дзень па аднаму папярэджанню маюць газеты «Белоруссия», «Народная воля» і «Навіны». Ёсць прэтэнзіі і да некаторых камерцыйных газет з-за парушэнняў Закона аб рэкламе.

Наконт абавязковага размеркавання. М. Падгайны займае цвёрдую пазіцыю: спецыяліст, на падрыхтоўку якога дзяржава затраціла грошы, павінен пэўны тэрмін адпрацаваць там, дзе ён найбольш патрэбны дзяржаве. Калі ж ён не хоча ехаць па размеркаванню — няхай верне грошы за адукацыю. Другі аспект у тым, што выданне, якое «заказала» сабе спецыяліста, павінна забяспечыць яму нармальныя ўмовы працы і пражывання. Адпаведныя прапановы ўжо ўнесены на разгляд Савета Міністраў Беларусі. Не сакрэт, што найменш укамплектаваныя спецыялістамі раённыя газеты. Ёсць патрэба ў пэўных спецыялістах ў абласных і рэспубліканскіх выданняў. Летась з 44 выпускнікоў факультэта журналістыкі выкарысталі права ўладкавання на працу, якое ім дае размеркаванне, толькі 4.

**Сяргей ПРОТАС.**

*ІНШЫЯ*

# ЦУКЕРКА АД КРЫШНАІТА

**На жаль, у журналісцкай практыцы часта так здараецца, што першая сустрэча з чалавекам становіцца і апошняй. Спаткаўся, пагутарыў, сабраў матэрыял для артыкула — і ўжо чакаюць новыя людзі, новыя падзеі.**

**Паўтаруся, на жаль.**

**Летась у «Звяздзе» быў надрукаваны мой артыкул «Крышнаіты з ваколіц вёскі Хватынка», у якім гутарка ішла пра сельскагаспадарчую абшчыну крышнаітаў у Крупскім раёне. У першых абзацах падаваліся словы знаёмца. Маўляў, нічога ў незвычайных фермераў не атрымаецца. Тады я з ім не мог спрачацца. Патрэбен быў час.**

**І вось прайшоў год.**

### КРЫШНАІТЫ І КАПУСТА

Нагадаю. Некалькі гадоў таму ў Крупскім раёне паслядоўнікі таварыства свядомасці Крышны ўзялі ў арэнду кавалак зямлі, пачалі будаваць там вялікі, на некалькі паверхаў, будынак. Сельскую гаспадарку яны вялі (і вядуць) у адпаведнасці з ведычнай культурай, паводле якой жывая істота ўяўляе сабою жывую душу, ненароджаную і бессмяротную. На ферме меліся два дужыя валы. На іх аралі, не прызнаючы тэхнікі. Было там яшчэ некалькі жывёлін, планавалі займацца пчалярствам. Жыло на ферме каля 10 чалавек.

Адразу зазначу: як мне падалося, быў там і большы аптымізм, чым цяпер.

... У вочы адразу кінуліся шматлікія вуллі.

— Колькі?

— У пчаляроў неяк не прынята гаварыць пра гэта, — адказаў ужо знаёмы Валодзя.

Прыкінуў: каля трыццаці калод. Існуе адмысловае падаграванне. Старшыня Абчугскага сельсавета Аляксандр Каравацкі — сам пчаляр. Таму адразу пачаў цікавіцца прыстасаваннем. Я ж зазначыў адзінае: мой бацька і дзед ацяплялі вуллі іначай. Значыць, не цураюцца крышнаіты-фермеры сучасных дасягненняў.

Летась мяне прыемна ўразіла падрыхтоўка тут насення бульбы. Перабраныя клубні пад электрычным асвятленнем.

— І як ураджай? Удаўся?

— Не. Ледзь-ледзь хапіла на новае насенне. Але ж неўраджайны год быў па ўсім раёне. Затое ўрадзілі капуста і агуркі.

У Крупках мне ўжо расказалі: гэтай прадукцыяй крышнаіты гандлявалі на мясцовым базарчыку. Людзі расхоплівалі, бо агуркі былі надзіва вялікія.

— Бізнесам пачалі займацца? Самі сябе не можаце пракарміць?

— Нам жа патрэбны грошы, каб купіць вопратку, цукар ці проса.

Адказ спакойны, рацыянальны. Без крайнасцяў і філасофскіх «завіхрэнняў». А я іх чакаў...

— Зямлю яшчэ будзеце браць?

— Не. Гэту б апрацаваць.

Жыццё адрэгулявала колішнія пражэкты. Яно — лепшы настаўнік і карэктар.

Але я ўжо зразумеў: знаёмцу з Мінска магу адказаць: не, браце, не завалілі тут справу. Развіваюць гаспадарку, жывуць і дапамагаюць тутэйшым. Напрыклад, наведваюць мясцовую бальніцу.

### ПАГУТАРЫЛІ...

Толькі ў час гэтай паездкі зразумеў: сельскагаспадарчая абшчына каля Хватынкі — манастыр. Бо і ў каталіцкіх, і ў праваслаўных манахаў стыль жыцця падобны — жывуць сваёй працаю.

Думку пацвердзіў і Юрый. На яго звярнуў увагу адразу. З-за фрэзуры. Ніякай коскі, звычайныя каротка пастрыжаныя валасы. Юру нельга і назваць крышнаітам. Ён ездзіць па храмах розных рэлігійных канфесій. Шукае свой шлях, шукае сябе. Цяпер вось апынуўся тут.

Разумны позірк, лагічныя разважанні, прыгожы твар. І чаго не сядзіцца? Жыў бы, як усе. Вось гэтае «як усе», можа, і самае страшнае. «Як усе» — значыць па звычцы, па правілах, якія навязвае грамадства. А воля, а духоўныя пошукі? Яны недзе для нас, большасці, сапраўды далёка. Хіба ў творах класікаў...

— Скажыце, а калі нехта адмаўляецца ад філасофіі свядомасці Крышны?

— Блага вядома. Кожны ўчынак адгукнецца некалі. Падводзіць і настаўніка. Але ніхто перашкаджаць не будзе. Кожны мае права на выбар.

— Дарэчы, пра настаўніка. Паводле ведычнай філасофіі, вы яму занадта ж ужо падначаленыя. Нават жаніцца без дазволу не можаце.

— А што кепскага, калі нехта слушна раіць? Вы ж таксама да старэйшага прыслухоўваецеся. У гэтым жыцці без духоўнай падтрымкі не абысціся.

— Быў такі выпадак, — прыгадаў Валодзя. — Адзін з адданых не паслухаўся настаўніка і ажаніўся супраць ягонай волі. Пасля моцна шкадаваў.

Ну, гэта ўжо можа быць і нацяжка. Па вялікаму рахунку, і хрысціянін звяртаецца па параду да свайго святара. Ды не заўсёды прыслухоўваецца да ягонага меркавання. Святар ці настаўнік такі ж чалавек. А людзям уласціва памыляцца.

Летась у манастыры я сустрэўся з маладой дзяўчынай. Была яна адзінай сярод мужчын.

— Дзе Ірына?

— Выйшла замуж.

— За сябра таварыства?

— Так. Жывуць цяпер у Мінску.

З'явілася ж тут іншая жанчына. З дзіцем. Трохгадовая дзяўчынка з цікавасцю паглядала на незнаёмага дзядзьку. Запытаўся, дзе будзе вучыцца. Калі не адчыніцца адмысловая школа, то стане наведваць звычайную. «Мы ж не адмаўляем значнасці навуковых ведаў. А духоўнае выхаванне атрымае ў нас».

Маленькая дзяўчынка нагадала: хлопцы — таксама нечыя дзеці.

### БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

Ці не найбольшая небяспека ад розных нетрадыцыйных вучэнняў і філасофій — адхіленне дзяцей ад бацькоў. Аддаючыся новаму стылю жыцця, слухаючы настаўніка, чалавек забывае пра тых, хто даў яму цялеснае жыццё. Ва ўсякім разе, такія факты ёсць. Дакладней, я чытаў пра іх. Хацеў упэўніцца.

— Мае бацькі, наадварот, задаволеныя, — шчыра сказаў Андрэй.

На ягоным ложку заўважыў кнігі па садаводству. На ферме ёсць і сад. Андрэй у гэтай галіне лепшы спецыяліст.

— Я ж цяпер многае ўмею. А навучыўся тут. Бацькі супакоіліся.

— Вы, напэўна, хуліганам былі...

— Быў, — усміхаецца.

Валодзя таксама расказаў пра апошнюю паездку дамоў. Маці працуе паштаркаю. Дапамагаў ёй. Бацькі, вядома, адразу былі незадаволеныя зменамі ў ягоным жыцці, а цяпер супакоіліся. Прывёў ён і слушны аргумент: «Студэнт едзе вучыцца і дома бывае рэдка. Ці хто, напрыклад, на Поўначы працуе. Так і мы не павінны ўсё жыццё быць з бацькамі. У нас сваё жыццё. Але пра іх памятаем».

Непаўналетніх у таварыства прымаюць толькі з пісьмовага дазволу бацькоў.

У войску таксама крышнаіты не адмаўляюцца служыць. Праўда, праблема з харчаваннем. Але і яе неяк вырашаюць. Зрэшты, каб не памерці з голаду, можна і мяса есці. Жыццё важней...

Я заўважыў: гутарка больш шчырая, чым у першы раз. А леташнюю публікацыю, высветліў, чыталі.

### ЦУКЕРКА АД КРЫШНАІТАЎ

Ну і няхай. Няхай нехта верыць у Крышну, не есць мяса, носіць коску, паўтарае малітву «Харэ Крышна, Харэ Рама». Няхай. Абы не шкодзіла іншым. Хаця гэта мы іх успрымаем, як іншых. Не такіх, як мы. Толькі пытанне: хто больш слушна жыве? Пытанне, адказу на якое я баюся...

А наконт распаўсюджання веравызнання я застаюся пры колішніх поглядах: на Беларусі крышнаіцтва не прыжывецца. Хрысціяне мы. А своеасаблівай лакмусавай паперкай паслужылі... цукеркі. Іх таксама тут гатуюць. Даведаўшыся, што маю дзяцей, пачаставалі. І вось якая была рэакцыя.

Знаёмая старшакласніца падзялілася з маці. Смак ацанілі. Але толькі матуля заікнулася: «Здаецца, ведаю, з чаго зроблена», як дзяўчына перапыніла яе:

— Лепш не кажы...

Значыць, асцерагаецца. Невядома...

Мае дзеці ласаваліся спакойна. Тут тлумачэнне простае: у падсвядомасці сядзіць, што бацька абы чым не пачастуе.

Адну цукерку я пакінуў у крупскай сям'і. Праз два дні ад'язджаў адтуль, а яна так некранутая і ляжала на кухонным стале...

### З КАМПЕТЭНТНЫХ КРЫНІЦ

*Суб'ектыўнае часта не адпавядае аб'ектыўнаму. Я не валодаю ні звышведамі, ні суперматэрыяламі ў галіне нетрадыцыйных веравызнанняў (па праўдзе, як і традыцыйных). Напэўна, гэта і не патрэбна. Ёсць спецыялісты. Пасля паездкі ў Крупскі раён звярнуўся ў Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў. На мае пытанні згадзіўся адказаць кансультант аддзела па справах рэлігій Вячаслаў **САВІЦКІ**.*

**— Вячаслаў Аркадзьевіч, колькі таварыстваў свядомасці Крышны зарэгістравана ў Беларусі?**

— Па аднаму ў Мінску, Магілёве, Гродне, Гомелі і Віцебску. Падрыхтаваны дакументы для рэгістрацыі ў Бабруйску.

**— Ці былі нейкія канфліктныя сітуацыі з імі?**

— Тры гады таму і летась адбыліся суды ў Мінску. У першым выпадку прэтэнзіі да таварыства выказалі бацькі некалькіх юнакоў. Парушэнняў закона з боку крышнаітаў выяўлена не было. Другім разам само таварыства падало іск на адну з газет, які таксама быў адхілены. Увогуле, таварыства свядомасці Крышны з законам стараецца сябраваць. Напрыклад, рашэнне суда яны самі прынеслі нам у камітэт. Вось адно з адгалінаванняў — «вайшнавы» — другая справа. Прыязджала з Масквы місіянерка, паспрабавала зарэгістраваць арганізацыю. Праверылі і аказалася, што сярод членаў абшчыны шмат фіктыўных прозвішчаў. Веравызнаўчы бок з крышнаітамі супадае, але «вайшнавы» больш агрэсіўныя. Напрыклад, прыкідваюцца вельмі беднымі, ходзяць у лахманах. А на самай справе іхнія кіраўнікі жывуць вельмі багата, хаця радавыя члены нават жабрацтвам займаюцца. Агрэсіўна яны навязваюць і свае погляды. Абшчыну мы не зарэгістравалі.

**— Пасля леташняй публікацыі мне расказалі выпадак, які здарыўся ў Мінску. Адзін з настаўнікаў вадзіў школьнікаў да крышнаітаў, нават елі там прасад. Ці не парушыў ён закон? Дзеці ж непаўналетнія.**

— Трэба канкрэтна разбірацца. Калі, напрыклад, гэты настаўнік вадзіў іх туды на азнаямленчую экскурсію, а пасля наведвалі яшчэ і праваслаўныя ці каталіцкія ўстановы, дык нічога страшнага. Калі ж ішла агітацыя слушнасці менавіта гэтага вучэння, такога настаўніка трэба гнаць са школы і да дзяцей блізка не падпускаць. Адукацыя, варта памятаць, у нас свецкая.

**— Я зразумеў, што крышнаіты клопату вам не прыносяць. А ці ёсць на Беларусі так званыя дэструктыўныя секты?**

— Ёсць. Вялікую актыўнасць праяўляюць прадстаўнікі царквы «Вучні Ісуса Хрыста». Арыентуюцца яны на моладзь. Праводзяць нават дыскатэкі, ні аднаго новага чалавека не абмінаюць увагай. Існуе поўная падначаленасць. Галоўная мэта — знайсці новага вучня. Перашкаджае ў гэтым праца ці сям'я — павінен пакінуць іх. Існуе жорсткае замбіраванне. Іншыя канфесіі не прызнаюцца. Цэнтр знаходзіцца ў Бостане. Уявіце: адтуль паступае ўказанне нейтралізаваць пэўную колькасць людзей. Яны яго выканаюць. Вялікую небяспеку нясе секта «Сям'я» ці «Дзеці Бога». Там культывуецца секс. Маўляў, дзеля любові да Бога трэба ахвяраваць сваім целам. Страшна, што яны вядуць работу нават у дзіцячых садзіках, замбіруюць дзетак праз казкі. Пра сатаністаў многія ведаюць. Асабліва яны актывізаваліся сёлета, бо раз за 400 гадоў выпадаюць, як сёлета, тры сатанінскія дні: пятніца, 13-га. Нядаўна ў Магілёве выявілі двух членаў «Белага брацтва».

**— Што параіце бацькам, калі іх непаўналетняе дзіця пачало наведваць такія секты?**

— Што датычыць зарэгістраваных абшчын тых жа крышнаітаў, дык трэба тлумачыць, пераконваць. А калі гутарка ідзе пра дэструктыўныя секты, незарэгістраваныя, неабходна звяртацца ў наш камітэт або адпаведныя структуры рай- ці аблвыканкамаў. Больш таго, паведаміць пра незаконную дзейнасць такой секты можна прама ў міліцыю.

Пасля гутаркі з Вячаславам Савіцкім парадаваўся за знаёмцаў-крышнаітаў: слушна робяць, што з законам сябруюць. Але насцярожыла наяўнасць шкодных псеўдавучэнняў. Таму ўжо ведаю, пра што будзе наступная публікацыя пад рубрыкай «Іншыя»...

**Міхал ТАЛОЧКА.**

*УСЁ ПРА ЎСЁ*

### Каціны дэсант

Востраў Барнеа славіцца ў Інданезіі не толькі пасевамі рысу, але і незлічонай процьмай пацукоў. У акрузе Качын яны з'ядалі больш за палову ўраджаю, і тады ім была аб'яўлена вайна. Першы скінуты з самалёта дэсант складаўся са ста катоў.

### Выратавала музыка Чайкоўскага

Больш як дзесяць гадоў таму зімой велізарны статак бялуг у Берынгавым моры быў адрэзаны ад адкрытага мора вялікай сцяной лёду. Ім пагражала немінучая смерць, таму што суровая зімовая сцюжа ўсё больш і больш звужала ўчастак вады, у якой статак трымаўся. Для таго, каб вырваць гэтых вялікіх млекакормячых з лядовага палону, капітану ледакола «Масква» быў дадзены загад увайсці ў праліў і прасекчы лёд. Гераічнымі намаганнямі экіпажа праход для бялуг быў зроблены, аднак тыя не жадалі выйсці праз яго ў адкрытае мора, а заставаліся ў лядовай пастцы. Ніхто не ведаў, як вывесці няшчасных, пакуль нехта з каманды не ўспомніў, што бялугі любяць музыку.

Уключылі на поўную магутнасць дынамік і сталі прайграваць запісы вакальна-інструментальных ансамбляў! Аднак, пачуўшы «Арлекіна! Арлекіна! Хі-хі-хі! Ха-ха-ха!» бялугі спалохана кінуліся далей ад карабля. Музыку замянілі на джаз Уцёсава, але і хуткія рытмы джаза ніякага водгуку ў бялуг не выклікалі. Тады радыст паставіў грампласцінку з музыкай Чайкоўскага, «Танец маленькіх лебедзяў» з неўміручага балета «Лебядзінае возера». І тут бялугі накіраваліся да ледакола і пацягнуліся за ім у адкрытае мора.

### Сабака пераадолеў моўны бар'ер

Ледзь не адняло назаўсёды мову ў 53-гадовага жыхара Пермі Эдуарда К., які дражніў свайго сабаку. На добрым падпітку ён забаўляўся тым, што рабіў грымасы чатырохногаму сябру, высунуўшы пры гэтым язык. Сабака спачатку спакойна пaглядаў на дзіўныя паводзіны гаспадара, а затым не вытрымаў і схапіў яго за доўгі язык. Дзяжурныя хірургі стаматалагічнай паліклінікі налажылі няўдаламу сабакаводу больш як 20 швоў.

**По матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**



Ф.СП-1 Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА** Колькасць камплектаў

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

Кошт: падпіскі ______ руб.; пераадрасоўкі ______ руб. Колькасць камплектаў

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

*ПОГЛЯД*

# «ЗАЯЦ» НА РАЗДАРОЖЖЫ

## Ці варта чакаць, што беларускі рубель за некалькі дзён адновіць страчаныя пазіцыі?

У адпаведнасці з дырэктывай прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, да 20 сакавіка валютны курс беларускага рубля павінен вярнуцца да той адзнакі, на якой ён быў у пачатку месяца. Варта нагадаць: у першых чыслах сакавіка наяўны долар у абменных пунктах Мінска каштаваў 44.000—45.000 беларускіх рублёў.

Наколькі рэальнае вяртанне, на якое, безумоўна, спадзяюцца мільёны беларускіх грамадзян, што паспелі ўжо адчуць першыя вынікі абвальнага падзення нацыянальнай валюты? Меркаваць пра гэта даводзіцца галоўным чынам па нядаўнім сумным вопыце расійскай фінансавай сістэмы. Калі ўвосень 1994 года расійскі рубель ураз патаннеў ажно на 30 працэнтаў (гэту падзею тады ахрысцілі «чорным аўторкам») — Крэмль і Цэнтральны банк РФ на працягу некалькіх дзён таксама зрабілі шэраг дынамічных крокаў, каб выправіць становішча, што пагражала нацыянальнай эканоміцы. На ўмацаванне рубля былі кінуты значныя валютныя рэзервы; сваёй пасады быў пазбаўлены ранейшы старшыня Цэнтрабанка Герашчанка, які некалькімі месяцамі раней дазволіў напампаваць эканоміку пустымі эмісійнымі грашыма, што ўрэшце і справакавала абвальнае падзенне рубля. Сёе-тое расійскім фінансавым уладам тады зрабіць удалося: да канца тыдня курс рубля змаглі падняць прыкладна на 10 працэнтаў, аднак на ранейшы, дакрызісны ўзровень расійскі рубель так і не вярнуўся.

Зразумела, гэта зусім не азначае, што менавіта такім будзе і сцэнарый «ліквідацыі наступстваў» беларускага валютнага крызісу. Наша фінансавая сістэма несувымерная з расійскай па маштабах. Каб умацаваць беларускі рубель і нават вярнуць яго на лютаўскія пазіцыі, патрэбны (па расійскіх мерках) не надта значныя рэзервы — размова ідзе, па некаторых звестках, пра некалькі сот тысяч долараў. Зусім не выпадкова, што ў крытычныя для беларускага рубля дні прэм'ер-міністр РБ Сяргей Лінг і старшыня Нацыянальнага банка Уладзімір Алейнікаў былі накіраваны ў Маскву, на перамовы з кіраўніком Цэнтрабанка Сяргеем Дубініным.

Скупыя афіцыйныя паведамленні наконт канкрэтных вынікаў гэтых перамоў маўчаць — і гэта нядобры знак. Хутчэй за ўсё, жаданага крэдыту ад Расіі дабіцца не ўдалося. Ускосна пра гэта сведчыць і нядзельная заява першага віцэ-прэм'ера расійскага ўрада Анатоля Чубайса, які ў тэлеінтэрв'ю праграме «Люстэрка» вельмі скептычна выказаўся пра эканамічную стратэгію беларускіх уладаў і папярэдзіў, што ў далейшым Расія мае намер пры крэдытаванні іншых краін не выходзіць за рамкі ўласнага бюджэту і выдаткоўваць буйныя сумы толькі тады, калі ўпэўненая ў іх вяртанні.

Наўрад ці варта ігнараваць у гэтай сітуацыі і палітычны фактар. Аляксандр Лукашэнка яўна ўмацоўвае свае пазіцыі на расійскай палітычнай сцэне. Патэнцыяльныя пераемнікі Барыса Ельцына, як і буйныя фінансавыя магнаты, сочаць за гэтым умацаваннем з трывогай і непакоем. Да прэзідэнцкіх выбараў у Расіі — крыху больш як два гады. І многімі ў Маскве Аляксандр Лукашэнка не без падстаў расцэньваецца як вельмі верагодны кандыдат на галоўную пасаду ў Крамлі.

Спосабаў нейтралізацыі небяспечнага канкурэнта многа. Адзін з іх — ігнараванне настойлівых просьбаў Мінска наконт фінансавай падтрымкі. Для расійскіх выбаршчыкаў, якія паспелі забыць, што такое чэргі ля абменных пунктаў, нарміраваны продаж прадуктаў харчавання, разгул інфляцыі, — відэакарцінка з Беларусі з адлюстраваннем нашых сумных эканамічных рэалій — намнога больш пераканаўчы аргумент, чым любыя масавыя акцыі беларускай апазіцыі ці крытычныя выпады супраць Аляксандра Лукашэнкі з боку расійскіх палітыкаў з дэмакратычнага лагера. Таму, на жаль, нам давядзецца рыхтавацца да не самага бязвоблачнага перыяду беларуска-расійскіх адносінаў.

Гэтыя ж прычыны прымушаюць сумнявацца ў тым, што беларускі рубель на працягу тыдня адновіць страчаныя пазіцыі. Сёе-тое, верагодна, зрабіць удасца, аднак разлічваць на поўнае вяртанне наўрад ці варта. На сённяшні дзень у Беларусі няма такіх рэзерваў валюты, якія б дазволілі гэтага дабіцца без дапамогі збоку. А чакаць дапамогі нам, на жаль, няма адкуль.

**Валянцін ЖДАНКО.**



## СПРОБА ЗГВАЛТАВАННЯ СКОНЧЫЛАСЯ... ШПІТАЛІЗАЦЫЯЙ ВІНОЎНІКА

**Амаль неверагоднае здарэнне адбылося днямі ў вёсцы Літвінава Асіповіцкага раёна.**

У хату 60-гадовай мясцовай жыхаркі ўварваўся, зламаўшы дзверы, мужык з суседняй вёскі. Ён спрабаваў згвалтаваць жанчыну, але яна не адказала ўзаемнасцю 53-гадоваму «кавалеру» і пачала актыўна супраціўляцца.

Адчуўшы, што яму не адолець жанчыну, а можа і спалохаўшыся шуму, мужык вырашыў, пакуль не позна, уцякаць. Ён выбег у двор, але ўпаў, стукнуўся галавой аб камень і атрымаў... чэрапна-мазгавую траўму. Віноўнік здарэння шпіталізаваны, а людзі навокал справядліва кажуць: «Бог яго пакараў...»

**Ілона ІВАНОВА.**





Выпуск № 9 (397)

Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ

# Пасяўны каляндар на 1998 год

| | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень |
|---|---|---|---|---|
| «Забаронены» дні для пасадкі і перасадкі (маладзік, Вадалей) | 20, 21, 26 | 17, 18, 25 | 13, 14, 24 | 10-12, 23 |
| Неспрыяльныя дні для большасці культур (Авен, Блізняты, Леў, зыходзячы вузел) | 1, 2, 5, 6, 22, 24, 25, 28, 29 | 2-4, 20-22, 26, 30, 31 | 16-18, 22, 23, 26, 27 | 13, 15, 16, 19, 20, 24, 25 |
| *Культура і яе біядынамічная формула* | Найлепшыя дні для пасадкі і перасаджвання канкрэтных культур | | | |
| **Базілік, маяран, размарын** (2, Рак, Скарпіён, Казярог) | 12 | 10, 11 | 6, 7 | 3-5, 8, 9, 31 |
| **Баклажаны, кабачкі, патысоны, гарбузы** (2, Рак, Шалі, Скарпіён, Рыбы) | 10-12, 14 | 7-11 | 3-7 | 1-4, 31 |
| **Бручка, рэпа** (3, Цялец, Рак, Шалі, Скарпіён, Казярог, Рыбы) | 12-14, 17, 18 | 11, 15, 16, 19 | 11, 12, 15, 16 | 9, 14, 17, 18 |
| **Бульба, тапінамбур** (3, Цялец, Рак, Шалі, Скарпіён. Стралец, Казярог) | 13-18 | 11-16 | 10-12 | 9, 14, 17 |
| **Агуркі, кукуруза** (1, Рак, Скарпіён, Рыбы) | 3, 4, 30 | 1, 27, 28 | 25 | 31 |
| **Буракі** (3, 4, Цялец, Рак, Шалі, Скарпіён, Казярог, Рыбы) | 13, 14, 17, 18, 22, 23 | 15, 16, 19, 20, 23 | 11, 12, 15, 16, 20, 21 | 13, 14, 17, 18, 21 |
| **Гарох, фасоля** (2, цялец, Рак, Шалі, Скарпіён, Рыбы) | 3, 4, 10-12 | 7-11 | 3-7 | 1-5, 31 |
| **Кавуны** (1, 2, Рак, Скарпіён, Рыбы) | 3, 4, 12, 30 | 1, 10, 11, 27, 28 | 6, 7, 25 | 3, 4, 30, 31 |
| **Капуста (у т. л. цвятная), спаржа** (1, Цялец, Рак, Шалі, Скарпіён, Рыбы) | 3, 4, 27, 30 | 1, 27, 28 | 25 | 1, 28-31 |
| **Кветкі з насення** (1, 2, Рак, Дзева, Шалі) | 3, 4, 8-11, 30 | 1, 5-9, 27, 28 | 1-5, 28-30 | 1-5, 26-29 |
| **Кветкі з цыбулін** (3, Цялец, Рак, Скарпіён, Казярог, Рыбы) | 13, 14, 17, 18 | 15, 16, 19, 20 | 11, 12, 15, 16 | 13, 14, 17 |
| ***Кроп, фенхель** (1,2, Блізняты, Рак, Дзева, Скарпіён, Рыбы) | 3, 4, 7-9, 28-30 | 1, 5, 6, 10, 26-28 | 1, 2, 6, 7, 25, 28, 29 | 3-5, 8, 26, 27, 30, 31 |
| **Морква, пастэрнак (на корань)** (3, Цялец, Рак, Шалі, Скарпіён, Рыбы) | 12-14 | 11, 19, 20 | 15, 16 | 13, 14, 17 |
| ***Памідоры** (2, Авен, Рак, Скарпіён, Стралец, Рыбы) | 4, 12 | 10, 11 | 6-9 | 3-7, 31 |
| **Перац салодкі** (2, Рак, Скарпіён, Стралец, Рыбы) | 3, 4, 12 | 10, 11 | 6-10 | 3-7, 31 |
| **Пятрушка на зяленіва** (1, Рак, Шалі, Скарпіён, Рыбы) | 3, 4, 30 | 1, 27, 28 | 25 | 1, 2, 28-31 |
| **Пятрушка на корань** (3, Цялец, Рак, Шалі, Скарпіён, Казярог, Рыбы) | 13, 14, 17-19 | 11, 15, 16, 19 | 11, 12, 15, 16 | 13, 14, 17 |
| ***Радыска** (3, Цялец, Шалі, Скарпіён, Стралец, Казярог, Рыбы) | 13-18 | 12-15 | 11, 12 | 9, 13, 14, 17 |
| ***Рэдзька** (3, Авен, Цялец, Рак, Шалі, Скарпіён) | 13, 14 | 11 | 17, 18 | 15-17 |
| ***Салата, шпінат** (1, Авен, Цялец, Рак, Шалі, Скарпіён, Рыбы) | 3, 4, 27, 30 | 1, 27, 28 | 3, 25 | 1-3, 28-31 |
| **Сельдэрэй** (4, 1, Цялец, Рак, Шалі, Скарпіён, Рыбы) | 3, 4, 22, 23, 27, 30 | 1, 20, 23, 27, 28 | 20, 21, 25 | 1-3, 17, 18, 21, 28-31 |
| **Суніцы садовыя (клубніцы), рэвень** (3, Рак, Скарпіён, Рыбы) | 12-14 | 11, 19 | 15, 16 | 13, 14 |
| ***Цыбуля на пяро** (1,2, Авен, Скарпіён, Стралец, Казярог) | 12 | 10-12 | 6-11 | 3-9, 31 |
| **Цыбуля на рэпку** (3, Скарпіён, Стралец, Казярог) | 13-18 | 11-16 | 10-12 | — |
| ***Цыбуля-парэй** (1, 2, Авен, Блізняты, Рак, Скарпіён) | 1, 28-30 | 1, 10, 11, 26-28 | 6, 7 | 3, 4, 31 |
| ***Часнок** (2,3, Авен, Скарпіён, Стралец) | 12-16 | 10-13 | 6-10, 17, 18 | 3-7, 15, 16, 31 |

Калі вашай культуры няма ў спісе, то ў выпадку караняплодаў і раслін, ядомай часткай якіх з'яўляецца корань, арыентуйцеся на бручку. А ў выпадку аднагадовых культур з ядомай надземнай часткай (сцябло, ліст, кветка, плод) — на кавуны. Вострыя травы лічыце па базіліку.

Прочырк азначае, што ў гэтым месяцы няма аптымальных дзён, садзіце ў любы дзень, акрамя «забароненага» і неспрыяльнага, але на абільны ураджай ужо не разлічвайце. Так, напрыклад, падзімовыя пасадкі цыбулі наўрад ці дадуць добры ўраджай у наступным годзе.

Зорачка (*) азначае, што гэтая культура асвоіла неспрыяльны знак задыяка і, значыць, шэраг неспрыяльных дзён для яе трапляе ў найлепшыя, так што гэта не апячатка.

Каляндар вам спатрэбіцца тры разы:

1) пры прарошчванні насення пры вызначэнні ўсходжасці,

2) пры замачванні насення для атрымання расады ці высадкі іх на градкі,

3) пры перасадцы расады ў адкрыты грунт.

У біядынамічнай формуле лічба азначае фазу Месяца (1— ад маладзіка да першай чвэрці, 2 — ад першай чвэрці да поўніка, 3 — ад поўніка да апошняй чвэрці, 4 — ад апошняй чвэрці да маладзіка), а затым пералічаны знакі задыяка; пад Месяцам у іх лепш за ўсё праводзіць пасадку і перасадку.

## Як захаваць прадукцыю?

**Нарыхтаваная на зіму бульба, морква і буракі выкінулі парасткі, ёсць гнілыя асобіны. Людзі пытаюцца, што рабіць.**

Сапраўды, сёлетняя цёплая зіма ў лютым стварыла ўмовы для развіцця бульбы і караняплодаў. Усё заўчасна «прачнулася» і спрабуе расці і расці. Недзе вылез з зямлі нават часнок! І вось снег...

Не варта панікаваць. Прыроду не падманеш і не вельмі перахітрыш. Аб гэтым сведчаць сённяшнія сакавіцкія дні. Мароз і снег. Часнок сцішыўся ў сваіх радках пад снегам, каб вясною забуяць на поўную моц. Вось толькі з морквай, якую паспелі пасеяць пад зіму, можа атрымацца замінка. Карэньчык у яе слабенькі, рэчываў для развіцця ў самім насенні — «кот наплакаў». Расходуе свае пажыўныя прыпасы «ранняе дзіця» і... загіне. Тое ж самае, відаць, можа напаткаць і бурачкі. А вось пятрушка, кроп выстаяць!

Трэба быць асцярожнымі з ***бульбай***, якая пачала прарастаць. Самае важнае — адправіць яе ў халодную няволю — выставіць на балкон, калі на двары плюсавая тэмпература. Добра накрыць ад холаду, аберагаць ад сонца. Тыя карэньчыкі быццам заразілі ўвесь клубень... вясною. У ім (клубні) утвараецца саланін — яд для чалавека і хатніх жывёл. І самі гаспадары ўжо заўважылі: бульба не той вартасці, хутка чарнее пасля прыгатавання. Гэта і ёсць дзеянне саланіну. І зноў мы нічога вартага не прыдумаем, бо законы прыроды змяніць нельга.

***Морква*** і ***буракі***, калі яны змешчаны ў пясок, адходаў не дадуць. «Панервуюцца» крыху і астынуць. Вядома, якасць будзе не тая, бо значная частка вітамінаў і іншых рэчываў страчана назаўсёды. Яны збеглі разам з карэньчыкамі і тым цяплом, якое нас напаткала. А яшчэ і з... доўгімі днямі захоўвання.

Як мага часцей аглядайце схованкі ***яблыкаў.*** Перабірайце, адкідваючы ўбок поўнасцю сапсаваныя і тыя з іх, якія былі побач. Яны ўжо «праглынулі» розную нечысць, заразіліся. На яблыках можна чакаць так званага «загару». Гэта нягода найбольш атакуе «бананавае». «Бойкен» і «беларускі сінап» устойлівыя да хваробы. Цяпер ці да канца сакавіка выкарыстаць «каштэлю». Тэрмін яе «жыцця» мінуў (да канца лютага). Настала чарга «беларускага малінавага», «спартана», некаторых іншых познезімовых сартоў.

## Перапіска з чытачамі

***Дачнікам Гомеля***

Расада падсвечваецца лямпамі дзённага святла. Гэта «сістэма» мацуецца не бліжэй чым 0,5 метра ад скрынак. Увесь падаконнік і праём у пакой (вісяць гардзіны, розныя занавескі) у белых бліскучых прадметах для абіцця святла. Гэта можа быць белая эмаль, бялюткая папера, лепш за ўсё слюда.

Падсвечваць з такім разлікам, каб светлавы дзень доўжыўся не менш як 7-8 гадзін (памідоры, перцы). Для гэтага, скажам, у 6 гадзін раніцы ўключаем святло лямпы. Свеціць да 8.30 (Гомель). Пасля эстафету прымае сонца. Толькі яго прамыя промні здольныя навесці «парадак». Заходзіць сонца за суседні дом — расліны спяць.

Можна паспрабаваць іншы расклад. У 8-9 гадзін — сонца. У другой палове без перапынку — лямпа з адбітым святлом.

**Івану ЗАСІНЦУ, *Ельскі раён.***

Паважаны Іван Іванавіч! Па пчалярству выдадзена столькі літаратуры, што можна і... заблудзіцца. Сярод аўтараў сталыя практыкі і вопытныя вучоныя. Кожны пчаляр павінен мець сваю бібліятэчку з трох-дзесяці кніг. Дорага? Але пчолы таго вартыя.

Мне здаецца, што вашы пчаліныя сем'і хварэюць на вааратоз. У вуллях жыве клешчык, які паразітуе на самой пчале. Ён вёрткі, спрытны, кемлівы. Нават калі пчала ляціць, скажам так, па мёд, гэты паразіт сядзіць на целе працаўніцы. Але магчыма і другая бяда. Вам трэба параіцца з вопытнымі пчалярамі ці пазваніць у сваё таварыства.

## ЦІ НАБЫЛІ БРАШУРЫ?

Працягваецца продаж брашурак «Ураджайныя градкі» (газета «Для Вас»). Акрамя Мінска, дзе гэта работа добра пастаўлена ў магазінах «Сельгасхімія» (Чырваназорная, 8) і «Сельгаскніга» (праспект Скарыны), наша выданне ёсць у магазінах «Сельгасхімія» Гомеля, Гродна і Брэста, раённых і гарадскіх паштовых аддзяленнях Валожына, Навагрудка, Дзятлава, Карэліч, Талачына, Іванава, Шчучына, Іўя, Рагачова. Наведайцеся ў аддзяленні сувязі, спытайце ў паштальёнаў.

Можна заказаць выданні ў рэдакцыі. Але каштуюць яны даражэй, бо сёння вельмі дорага каштуе перасылка: 5500 рублёў — за адзін экземпляр і па 5000 рублёў — за два і больш экземпляраў (кожны).

У нас ёсць наступныя брашуры: **№ 17** *(як атрымаць тону памідораў і 500 кг бульбы з соткі, а яшчэ высокія ўраджаі перцаў, баклажанаў, фізалісу, тытуню)*; **№ 18** *(агарод па-замежнаму — ЗША, Англія, Чэхія)*; **№ 19** *(усё пра сад — пасадкі, угнаенні, абрэзка, прышчэпкі і г. д.)*; **№ 21** *(кветкі ля дома, здабыткі ўмельцаў)*.

**З любога паштовага аддзялення на разліковы рахунак газеты «Звязда» вышліце перавод з указаннем нумароў брашур. Разліковы рахунак газеты такі: 3012210270016, код 739 у АКБ «Белбізнесбанк» г. Мінска. Адрас газеты: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10А, «Звязда».**

Разборліва ўкажыце зваротны адрас з індэксам, прозвішча, імя і імя па бацьку. Якія брашуры жадаеце набыць (нумары), паведамляйце ў верхняй і ніжняй частцы грашовага перавода. Як толькі прыйдзе перавод, адразу ж вышлем бандэроль.

**Вышлю па пошце сартавыя вяргіні. Дашліце пісьмо з падпісаным зваротным канвертам для адказу.**

***Раіса НІКАНАВА, п/а Навасёлкі, 222838, Пухавіцкі раён.***

**Прапаную супертэхналогію па вырошчванню бульбы. Ад жадаючых набыць яе — падпісаны канверт.**

***Дзмітрый ПОЛАЦКІ, вул. К. Цэткін, дом 80-8 (тэлефон 6-27-92), 225710, г. Пінск.***

*Некалькі гадоў таму мяне запрасілі на сустрэчу з работнікамі культуры Іванаўскага раёна. У Мінск вяртаўся маршрутным аўтобусам, які ішоў з Лунінца. На вакзале заняў месца, пазначанае ў білеце. Сеў ля акна, а побач са мной уціснуўся малады хлопец. Праз некалькі хвілін да нас падышла сімпатычная дзяўчына і сказала: «Даруйце, калі ласка, маё месца...» — і назвала нумар месца майго суседа. У адказ хлопец паказаў свой квіток, на якім значыўся той самы нумар. Доўга не спрачаліся. Як толькі дзяўчына ўселася, я запытаў: «І часта так шанцуе?» — «Часта, — адказала яна. — Я ж — «панядзелак!» Па дарозе ў Мінск мая суседка расказала пра добры тузін неверагодных здарэнняў, якія літаральна на кожным кроку сыпаліся на яе. Дзяўчына была перакананая, што прычынай усіх дзівосаў быў дзень яе нараджэння — панядзелак.*

*Той выпадак прымусіў мяне звярнуцца да набыткаў культуры розных народаў свету і паспрабаваць упарадкаваць звесткі пра той ці іншых дзень або дату нашага нараджэння. Аказалася, што ў культуры існавала даволі складаная і разгаліваная сістэма ведаў, з якой нашы продкі суадносілі свае штодзённыя паводзіны. Кожны дзень тыдня меў сваю «партрэтную» характарыстыку. Ніжэй будуць прыведзены толькі некаторыя звесткі, якія, на мой погляд, і да сённяшняга часу не страцілі сваёй актуальнасці.*

# СІМВОЛІКА ДЗЁН І ДАТ У НАРОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

### ПАНЯДЗЕЛАК
### *(«цяжкі»)*

Першы дзень тыдня, лічыцца цяжкім і нешчаслівым. Вядома некалькі версій адмоўнага стаўлення да гэтага дня. Адны людзі сцвярджаюць, што панядзелак — дзень цяжкага пахмелля пасля надзельнага святкавання. Іншыя спасылаюцца на тое, што пасля дня адпачынку не адразу хочацца брацца за справу. Аднак мушу сказаць, што гэтыя і аналагічныя ім версіі маглі быць прыдуманы прадстаўнікамі іншых (неславянскіх) народаў. Калі ў этнаграфічных крыніцах XIX ст. чытаеш, што на вяселлі за тры дні выпілі «аж тры літры самагонкі», то, думаецца, ад такой «дозы» наўрад ці павыміралі б беларускія мужыкі-асілкі. А па-другое, для селяніна было проста недапушчальна напіцца так, каб своечасова не пакарміць дзетак, не дагледзець гаспадарку: не прыбраць у хаце, не падаіць карову, не пакарміць свіней. Той, хто так абразліва гаворыць і піша пра наш народ, проста не ведае, якой вышыні і моцы быў у беларуса гонар за свой РОД. Былі і выключэнні, але ж яны не паказальныя.

Каб зразумець семантыку негатыўных адносінаў славян да панядзелка, трэба, відаць, паспрабаваць упісаць яго ў больш шырокі кантэкст аднародных з'яў, галоўнай рысай якіх будзе сімволіка пачатку: пачатку любой справы, пачатку года, пачатку сева, зажынак, родаў, радзінаў, вяселля, пачатку дня. Услухаемся, пра што гавораць прыказкі:

*— Не пашанцавала зранку, не пашчасціць і ўвечары;*

*— Нарадзілася цялятка з плямкай — з плямкай і памрэ;*

*— Як сустрэнеш Новы год, такім ён і будзе.*

У рускіх прыказках са слоўніка Ул. Даля выкарыстоўваецца іменна гэты алгарытм для ацэнкі панядзелка як ключавога моманту, які вызначаў жыццё чалавека (яго справы, паводзіны, гаспадаранне) на ўвесь наступаючы тыдзень.

Балгары таксама лічаць: калі ў панядзелак раніцай атрымаць грошы, то ўвесь тыдзень будзеш атрымліваць; калі ж аддаць іх, то ўвесь тыдзень вяртаць будзеш.

Надзвычайная важнасць моманту пачатку чаго-небудзь адлюстравана ў рытуалах, якія суправаджаюць будаўніцтва хаты, печы, улазіны (уваходзіны ў новы дом) або проста першае наведванне госцем новай хаты (напрыклад, пераступіўшы парог хаты, трэба сыпануць на падлогу жменю манет, каб у хаце заўсёды быў дастатак).

У шматлікіх працах па біяэнергетыцы падкрэсліваецца, што трэба абавязкова звяртаць увагу на паслядоўнасць сваіх дзеянняў у ранішні час, калі вы толькі прачнуліся і пачынаеце мыцца (спачатку толькі рукі, а затым ужо чыстымі рукамі твар і г. д.) або прыбіраць у хаце (напрыклад, ложак, на якім вы спалі, нельга прыбіраць адразу, няхай «астыне», а то можаце сябе «запячатаць»). А нагадайце, як мы рэагуем на нервовыя паводзіны нашых родных або калег па рабоце: «Ты што, сёння не з той нагі ўстаў?!» Пры гэтым маецца на ўвазе, што мужчына абавязаны ўставаць з правай нагі, а жанчына — з левай.

Калі да сказанага дадаць, што панядзелак — «мужчынскі» дзень, тады можна зразумець некаторыя асаблівасці сялянскага гаспадарання. Напрыклад, непажадана было садзіць курыцу на яйкі — маглі вывесціся адны пеўнікі. І наадварот, гэты дзень лічыўся спрыяльным для пасадкі фасолі, агуркоў і гарбузоў.

Ноч з панядзелка на аўторак лічыцца спрыяльнай для зачацця хлопчыка.

У XX ст. з'явіліся дадатковыя перасцярогі, звязаныя з гэтым днём: непажадана класціся ў бальніцу — доўга хварэць будзеш; народныя лекары таксама не раяць звяртацца па дапамогу ў гэты дзень, пачынаць лячэнне цяжкіх або задаўненых захворванняў.

На гэтым жа прынцыпе трымаецца і агульнавядомая выснова, сфармуляваная ў прыказцы *«У панядзелак нават цыган у дарогу не збіраецца, бо не пашанцуе»*. Гэта значыць, што чалавек, які ўсё жыццё вандруе па свеце, амаль кожны дзень у дарозе, і той трымаецца перасцярогі не рушыць з месца ў першы дзень тыдня. А што ўжо тады казаць пра селяніна-земляроба, які «прыкіпеў» да свайго лапіка і пакідае яго толькі тады, калі трэба паехаць на базар або кірмаш.

Сон, які прысніцца ў панядзелак, збываецца толькі для тых людзей, якія нарадзіліся ў гэты дзень.

### АЎТОРАК
### *(«Радаўніца»)*

Другі (второй — вторник) дзень тыдня, лічыўся адным з найбольш спрыяльных для пачатку важных, значных спраў. Можна смела адпраўляцца ў далёкую дарогу — абавязкова пашчасціць. Як і панядзелак (абодва «мужчынскія» дні), лічыцца спрыяльным для квашання капусты. Відаць, менавіта мужчынскі пачатак вызначаў станоўчыя адносіны да гэтага дня і прадказваў поспех у задуманай або распачынаемай справе, напрыклад:

— пайсці ў гэты дзень у сваты — не атрымаць «ад варот паварот»;

— калі ў гэты дзень адняць дзіця ад грудзей, то яно не будзе прасіць суслу;

— пачыналі сеяць яравыя культуры, садзілі курыцу на яйкі;

— чалавек, які народзіцца ў гэты дзень, пражыве доўгае і шчаслівае жыццё.

Разам з тым у асяроддзі славян існуе павер'е, якое папярэджвае: не пазычай ніколі грошай у аўторак — усё жыццё хапаць не будзе.

Аўторак на другім пасцявелікодным тыдні — Радаўніца, дзень памінання продкаў. Сон, які прысніўся ноччу ў аўторак, можа збыцца толькі праз 7—10 гадоў.

### СЕРАДА
### *(«градавая»)*

Трэці (сярэдні) дзень тыдня, «жаночы» дзень, якому адпавядае няцотны лік. У славян-хрысціян лічыцца нешчаслівым, посным днём, таму што якраз у сераду Іуда Іскарыёт здрадзіў Ісусу Хрысту і выдаў яго.

Серада на чацвёртым тыдні вялікага посту называецца «перапалавінне» — пост «ломіцца» папалам, пачынаецца яго другая палавіна.

Калі гэты дзень трапляў на «маладзіковую» фазу Месяца, то ён лічыўся спрыяльным для закладкі хаты або печы.

У сераду забаранялася пачынаць сяўбу, хадзіць у сваты, збірацца ў далёкую дарогу, бяліць печ, прасці.

Вядома нямецкая прымаўка, якая быццам бы прадказвае: парасяты, якія народзяцца ў сераду, прападуць.

На Палессі, каб засцерагчы пасевы ад граду, ушаноўвалі градавую сераду — першую пасля Сёмухі.

Сон, які прысніўся ў сераду, мае прарочае, прадсказальнае значэнне.

Славянскія знахары раяць у гэты дзень здымаць цяжкія нагаворы, закляцці, лячыць родавую гарачку.

У праваслаўных хрысціян поснай лічыцца не толькі серада, але і пятніца. Магчыма, гэтую акалічнасць падкрэсліваюць некаторыя прыказкі: «Чаго ты косішся, як серада на пятніцу», або «Надуўся, як серада на пятніцу».

У сераду забараняецца купаць дзяцей.

У сувязі з тым, што посных дзён два, то на Беларусі ўзнікла легенда пра тое, які ж з гэтых дзён лічыцца больш важным.

### ЧАЦВЕР
### *(«чысты»)*

Мужчынскі дзень, якому адпавядае цотная (парная) лічба.

Можна было ставіць на зіму капусту. Увогуле лічыцца самым спрыяльным днём для засолкі або квашання прадуктаў харчавання.

Забаранялася садзіць агародніну і саліць сала, бо дзень лічыўся «чарвівым».

Хадзілі па вёсцы і запрашалі гасцей на вяселле.

Каб вяліся грошы, пазногці трэба стрыгчы толькі ў гэты дзень.

У язычнікаў хутчэй за ўсё быў святочным, выхадным днём — накшталт нядзелі ў хрысціянскія часы.

Захаваўся рытуальны дыялог, які пацвярджае, што вяселлі даўней спраўлялі менавіта ў гэты дзень:

— Калі жаніцца будзеш?

— Пасля дожджыку ў чацвер!

Ушаноўвалі чацвер на Масленічным тыдні, чацвер перад Вялікаднем, чацвер на велікодным тыдні, чацвер перад Сёмухай.

Чацвер на Масленічным тыдні лічыўся днём Воласа (Вялеса) — бога — ахоўніка хатняй жывёлы, у гэты ж чацвер на высокі пагорак за вёскай вывозілі саламянае чучала, каб затым у нядзелю спаліць яго, аб'язджалі маладых коней.

У «чысты чацвер» трэба было пакупацца ў крынічнай вадзе на ўзыходзе сонца (пакуль воран сваіх дзетак не купаў), тады твар будзе чыстым і белым.

На Віцебшчыне ў «чысты чацвер», на ўвесь дзень на полі ставілі якінебудзь посуд з вадой. Гэта вада лічылася «святой» і валодала гаючымі якасцямі. Калі ж карова пачынала даіцца крывёю, то яе вымя трэба было абцерці змочанай у гаючай вадзе рукой.

У некаторых месцах хадзілі на могілкі ўшаноўваць продкаў (Наўскі Вялікдзень).

Шматлікія беларускія знахары сцвярджаюць, што любоўныя нагаворы (прысушкі) лепш за ўсё рабіць у чацвер.

Каб быць багатым на працягу года, трэба есці бліны ў чацвер на Масленіцы.

Звычайна ў чацвер спраўлялі зажынкі.

У англічан і немцаў лічыцца днём бога Грому (Dannerstag).

У некаторых касцёлах званы змаўкаюць апоўдні чацвярга на перадвелікодным тыдні і маўчаць да палудня нядзелі.

### ПЯТНІЦА
### *(«Параскева»)*

Жаночы дзень, якому адпавядае няцотны лік.

Самы спрыяльны дзень для пасадкі і праполкі цыбулі.

Не раілі ў гэты дзень вывозіць гной — мог апусцець хлеў, жывёла перастала весціся.

Вясной імкнуліся ў гэты дзень першы раз выгнаць карову ў поле.

Катэгарычна забараняецца стрыгчы пазногці, нельга заплятаць валасы ў касу, кажуць — будзе доўга балець галава.

Серада і пятніца ў праваслаўных хрысціян лічацца поснымі днямі. Аднак да посту ў пятніцу існуюць больш жорсткія патрабаванні, таму што ў адпаведнасці з евангельскай традыцыяй Ісус Хрыстос быў укрыжаваны менавіта ў гэты дзень. Тыя неймаверныя пакуты, які Ён пацярпеў за грахі чалавечыя, нарадзілі культ пакутніцы Параскевы Пятніцы (paragseue — грэч. «пятніца»), за хрысціянізаваным вобразам якой стаіць не сапраўды існаваўшая гістарычная постаць жанчыны, а легендарна-міфалагічнае ўвасабленне выключнага ў гісторыі чалавецтва дня. Евангельскі сюжэт стаў асновай узнікнення легенд пра Пятніцу, якая, з аднаго боку, дапамагае тым жанчынам, якія строга прытрымліваюцца хрысціянскіх канонаў, а з другога — можа жорстка пакараць тых, хто парушае этыкетныя прадпісанні звычаёвага права.

Культ Параскевы даволі пашыраны ў асяроддзі беларусаў, аб чым сведчаць шматлікія табу і прадпісанні. Напрыклад, жанчыны мыліся ў лазні толькі ў пятніцу. Даўней перад «дзядамі» (суботнім ушанаваннем даўно памёршых па мужчынскай лініі) адзначаліся «бабы» — ушанаванне радаводу па жаночым адгалінаванні.

У дзень Параскевы дзяўчаты хадзілі ў храм і прасілі ў святой сабе суджанага.

Калі доўгая засуха літаральна выпальвала ўсё навакольле, то жанчыны з малітоўнымі словамі звярталіся да сваёй апякункі Параскевы Пятніцы. Абрад прадзення ручніка-абыдзённіка, які асвячалі ў храме, а затым распускалі і даўжэзнай ніткай абыходзілі вакол вёскі, таксама выконваўся ў пятніцу.

Аднак гэта рабілася ў выключнай сітуацыі, а ў штодзённым жыцці існавала забарона прасці ў пятніцу, бо верылі, што святым «радзіцелям» вочы кастрыцай засыпле.

Калі ж маці нечакана забылася і пакупала дзіця ў пятніцу, то каб папярэдзіць магчымае пакаранне хваробай, яна звала да сябе суседку, перадавала ёй дзіця, а сама станавілася каля вакна ад вуліцы і чакала, калі суседка падасць ёй дзіця праз акно. Суседка ж не проста аддавала, а «прадавала» дзіця за капейку.

### СУБОТА
### *(«радзіцельская»)*

Жаночы дзень, якому адпавядае цотная лічба. Дзень ушанавання продкаў (мясаедныя дзяды — субота перад Масленкай, субота перад Сёмухай, «радзіцельская субота» — Восеньскія Дзяды, трэцяя субота пасля Пакроваў. Хутчэй за ўсё, спрадвечная пятніца — «бабы», субота — «дзяды» з цягам часу зліліся ў адзінае цэлае — «радзіцельскую суботу»).

Мужчынскі дзень у лазні.

Дзень, спрыяльны для ад'езду ў далёкую дарогу.

Распаўсюджана павер'е, што дзяцей лепш хрысціць у суботу; калі ў іншы дзень, то пражывуць кароткі век.

Балгары верылі, што чалавек, які нарадзіўся ў суботу, можа бачыць духаў сваіх продкаў.

Нашы народныя лекары раяць: у гэты дзень палячыце п'яніцу — пройдзе хвароба.

Лічыцца лёгкім днём, можа таму, што наперадзе была нядзеля — дзень адпачынку. У гэты дзень звычайна ўсе прыбіраюць у хаце. У суботу перад Вялікаднем фарбавалі яйкі. Вядома папярэджанне не пачынаць адказную справу ў суботу — нічога добрага з гэтага не атрымаецца. *Магчыма таму ў суботу не вянчаюць маладых у храме.*

### НЯДЗЕЛЯ
### *(«Святая»)*

Дзень «не для дзела», «ня-дзелай».

Дзень уваскрэсення Ісуса Хрыста.

Дзень пачатку вяселля (у старой традыцыі). Захавалася прыказка: «Вяселлю казала і качарга гуляць ад нядзелі да чацвярга».

Дзень правядзення кірмашоў.

Лічыўся магічным, а таму спрыяльным днём для выгану жывёлы ў поле, пачатку сяўбы, будаўніцтва хаты.

Забараняецца купаць дзяцей і мыць бялізну — будуць хварэць дамашнія.

Дзіця, якое нарадзілася ў нядзелю, валодае незвычайнымі здольнасцямі, яго нельга сурочыць, навесці іншыя хваробы.

Людзі, якія нарадзіліся ў гэты дзень, маглі «бачыць», дзе закапаны клад, таму што над кладам заўсёды свеціцца блакітны свет нябёсаў, але яго не ўсе бачаць.

Пажадана, каб маці з дзіцем упершыню выйшла з хаты ў гэты дзень

**Янка КРУК.**

## 36,6°

## РАЙСКАЕ ГАЛАДАННЕ

**Хачу падзяліцца сваім рэцэптам пахудзення — можа, камусьці спатрэбіцца. Тым больш, што ён не патрабуе нічога асаблівага, акрамя дакладнага выканання некалькіх нескладаных указанняў.**

**Худзець будзем з дапамогай яблыкаў. Я ўвогуле лічу яблыкі самай карыснай садавінай у свеце. Нездарма ад Евы яблык хавалі. І нездарма Ева ўсё ж яго паспытала.**

Яблыкі трэба есці не проста так, а строга па графіку.

У першы дзень з раніцы з'ешце адзін яблык сярэдняй велічыні. Потым увесь дзень ешце, як елі звычайна. (Дарэчы, гэта галоўнае з майго метаду — заўсёды есці, як елі звычайна.) На другі дзень з'ешце два яблыкі: адзін — раніцай, другі — перад сном. На трэці дзень — тры (раніцай, у абед і ўвечары). Цяпер увага! На чацвёрты дзень зноў з'ешце два яблыкі, а на пяты — адзін.

Калі думаеце, што гэтым усё і скончыцца, — памыляецеся. На шосты дзень з'ешце два яблыкі, г. зн. зноў пачынаем паступова павялічваць колькасць з'едзеных яблыкаў. Давадзім гэту колькасць да сямі штук. Як дайшлі да сямі — на наступны дзень зноў з'ядаем шэсць штук, г. зн. пачынаем змяншаць колькасць на адзін.

Як дойдзеце да аднаго яблыка, з кожнага наступнага дня зноў пачынайце з'ядаць на адзін яблык больш. Толькі на гэты раз максімальную колькасць даводзіце не да сямі, а да дванаццаці. Пасля чаго зноў паступова змяншаеце колькасць з'едзеных яблыкаў і даводзіце яе да нуля.

Такім чынам, усяго курс галадання і ачысткі арганізма зойме ў вас трыццаць дзевяць дзён. Паўтарыць яго рэкамендуецца не пазней чым праз 1,5—2 месяцы. Усяго за год трэба будзе харчавацца згодна з маёй дыетай чатыры разы.

Звяртаю вашу ўвагу, што есці вам можна ўсё: ешце, як елі (толькі пастарайцеся спіртнога не ўжываць і не курыць), ні ў чым сабе не адмаўляйце. Але! Улічыце, што неабходную колькасць яблыкаў вам на працягу дня (натуральна, пакрысе, а не ўсё адразу) з'есці трэба абавязкова. Гэта і ёсць асноўны сакрэт маёй дыеты. Асабіста я такім чынам давяла сваю вагу з сямідзесяці васьмі кілаграмаў да шасцідзесяці трох. А больш мне і не трэба. І справа не толькі ў страчаных лішніх кілаграмах, у мяне і скура стала свяжэйшая, ды і ў цэлым стала намнога лепш выглядаць і адчуваю сябе цудоўна. І самае апошняе: бландзінкам раю есці зялёныя яблыкі, шатэнкам — жоўтыя, брунеткам — чырвоныя. Хоць не думаю, што вынік будзе дрэнным, калі пераблытаць колеры.

**Е. СІМАКОВА.** *«АиФ-Здоровье».*

## Старонка Паўла Глобы

### 19 сакавіка, чацвер

**Рэкамендацыі**. Сёння трэба быць актыўным і рашучым ва ўсім: дзень патрабуе неадкладных дзеянняў. Спрыяльны час для пераходу на новае месца работы. Карысныя розныя групавыя заняткі. Можна даваць клятву вернасці, выконваць зарокі. У гэты дзень трэба быць абсалютна сумленным і правільным, нельга хлусіць. Можна адпраўляцца ў далёкую дарогу, пачынаць падарожжа. Пастарайцеся больш пабыць на свежым паветры, добра зрабіць пешую прагулку. Рэкамендуюцца ванны, душы, загартоўка.

**Медыцына.** Проціпаказаныя аперацыі і працэдуры, звязаныя з печанню, жоўцевым пузыром і бёдрамі. У гэты дзень старайцеся менш сядзець, каб не напружваць бёдры. Проціпаказаныя донарскія працэдуры і ўмяшанне ў крывятворную сістэму. Неабходна праводзіць кроваачышчальныя працэдуры, піць травяны чай, есці моркву, журавіны, буракі, рабіну, гранаты. Спрыяльны час для лячэння лёгкіх і бронхаў.

***Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».***

### СЁННЯ

| | | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|---|
| СОНЦА | Мінск – | 6.21 | 18.16 | 11.55 |
| | Віцебск – | 6.11 | 18.06 | 11.55 |
| | Магілёў – | 6.10 | 18.05 | 11.55 |
| | Гомель – | 6.04 | 18.05 | 12.01 |
| | Гродна – | 6.33 | 18.33 | 12.00 |
| | Брэст – | 6.36 | 18.32 | 11.56 |

**МЕСЯЦ** **Апошняя квадра 21 сакавіка**

**20-ыя месяцавыя суткі. З 22.57 Месяц — у сузор'і Стральца, да гэтага — у Скарпіёне.**

**ІМЯНІНЫ** **Пр. Давіда, Канстанціна, Марка, Фёдара, Іраіды К. Кірыла, Эдварда**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па паўночнаму захаду невялікія ападкі, слабы галалёд. Тэмпература паветра ў Гомелі — каля нуля, Мінску, Віцебску, Магілёве — 0—2, Гродне — 1—3, Брэсце — 2—4 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, 19-га месцамі кароткачасовы снег, 20-га ў паўднёва-заходняй палавіне рэспублікі ападкі. Тэмпература ўначы — 3—8, месцамі да 13 градусаў марозу, удзень — мінус 3 — плюс 2.







ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйны нумар 1.

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by. http://www.zvyazda-daily.minsk.by.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84 902. Індэкс 63850.
Зак. № 1476.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12